*Палессе — Падляшша...* ➔3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

*Бельскі музей* ➔ 9



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 20 (2922) Год LVII | Беласток, 13 мая 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Замалявалі ўказальнікі

Аляксей МАРОЗ

**Невядомыя злачынцы замалявалі зялёнай фарбай каля дзесяці надпісаў на двухмоўных указальніках у Арлянскай гміне з назвамі вёсак на беларускай мове. Хутчэй за ўсё злачынства здзейсненае было ноччу з 1 на 2 мая на ўказальніках пры краёвай дарозе № 66, на адрэзку з Бельска-Падляшскага ў Кляшчэлі, якія паказваюць на Спічкі, Тапчыкалы і Кошкі, а таксама на двух указальніках, якія знаходзяцца каля ваяводскай дарогі з Бельска ў Гайнаўку і паказваюць на Шчыты-Дзенцялова.**




— Аб злачынстве даведаўся я 2 мая каля шаснаццатай гадзіны і паехаў сам пабачыць замаляваныя ўказальнікі. Аб здарэнні паінфармаваная была паліцыя, якая ўзяла ўзоры фарбы з указальнікаў і забяспечыла сляды злачынства. Сёння (4 мая — А.М.) работнікі пачысцілі з фарбы памаляваныя ўказальнікі. Для глупства няма ацэнкі і мы спадзяемся, што паліцыянты знойдуць злачынцаў і іх укараюць. Расследаванне вядзе Павятовая камендатура паліцыі ў Бельску-Падляшскім пад наглядам Ваяводскай камендатуры паліцыі, — заявіў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк і дадаў, што час (вольныя ад працы дні, калі многа турыстаў наведвае наш рэгіён) і месца злачынства (каля рухлівых краёвай і ваяводскай дарог) пэўна не былі выпадковымі, а злачынцам магло залежаць, каб як найбольш людзей убачыла рэзультат вандалізму. Жыхары Арлянскай гміны толькі 4 мая з масмедыяў даведваліся аб злачынстве. Вестка выклікала абурэнне, але не страх, ці злосць.

— Я думаю, што гэта хуліганскае злачынства і здзейснілі яго асобы звонку, бо нашы жыхары гэта талерантныя людзі і такога не зрабілі б. Можа хто нудзіўся і зрабіў іншым на злосць. Нашы людзі з пашанай глядзяць на сінагогу і, калі раней памалявалі па ёй, з абурэннем успрынялі гэты акт вандалізму, — сказала дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук. — Добра, што ўдалося акуратна пачысціць двухмоўныя ўказальнікі, якімі цікавяцца турысты. Прыязджаюць да мяне знаёмыя і хваляць, што дошкі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах гэта ўдалы турыстычны атракцыён. Нас, беларусаў, тут большасць і мелі ж мы права паставіць двухмоўныя ўказальнікі.

— Я лічу, што са спакоем трэба ўспрыняць акт вандалізму і як найхутчэй знайсці віноўных. Ніхто з нашых не зрабіў бы такога, а хутчэй за ўсё малявалі прыезджыя хуліганы. Зарана называць канкрэтных віноўных, а тым болей нельга адразу дашуквацца канфлікту на нацыянальнай глебе, — сказаў старшыня Таварыства сяброў Арлянскай зямлі Сяргей Мартыновіч. — Пакуль не раскрытыя злачынствы, зробленыя ў Пунскай гміне, Беластоку, Ядвабным, ці на нашай сінагозе ў Орлі, дагэтуль хуліганы будуць сябе свабодна адчуваць.

— А я не чысціў бы замаляваных табліц. Няхай людзі паглядзелі б, якую дурноту можна зрабіць. Замаляванне ўказальнікаў у карысць лукашэнкаўскаму рэжыму і ў Беларусі будуць маглі трубіць: пабачце, як праследуюць беларусаў у Польшчы, — заявіў адзін з радных Арлянскай гміны.

Прэс-сакратар Ваяводскай камендатуры паліцыі Анджэй Бараноўскі замаляванне ўказальнікаў на беларускай мове назваў актам вандалізму і сказаў, што цяпер паліцыянты вядуць інтэнсіўнае расследаванне, каб высветліць акалічнасці здарэння і затрымаць злачынцаў. На падставе аналізу сабранага матэрыялу будзе вырашацца ці ўзбуджаць справу аб публічнай знявазе групы насельніцтва па прычыне іх нацыянальнай прыналежнасці, за што пагражае нават да трох гадоў турэмнага зняволення.

— Акт вандалізму на тэрыторыі Арлянскай гміны заслугоўвае самага вялікага грамадскага асуджэння. Жыхары Падляшскага ваяводства ганарацца шматкультурнасцю рэгіёна па прычыне добрых суадносін паміж нацыянальнымі, этнічнымі і рэлігійнымі меншасцямі, — супольна выявілі сваё вялікае абурэнне і трывогу па прычыне знішчэння табліц падляшскі ваявода Мацей Жыўна, бельскі стараста Славамір Снарскі і арлянскі войт Пётр Сэльвесюк, якія адначасна выявілі надзею, што злачынцы будуць прыцягнены да крымінальнай адказнасці. Каб пазбегнуць падобных злачынстваў, трэба як найхутчэй знайсці віноўнікаў замалёўвання двухмоўных табліц. Трэба таксама весці адукацыйную працу сярод насельніцтва Падляшскага ваяводства ў галіне гісторыі, культуры і традыцый нацыянальных і рэлігійных меншасцей. Абурэнне па прычыне нішчэння двухмоўных дошак выказалі таксама прадстаўнікі Падляшскай ваяводскай управы, якая рыхтуе для моладзі адукацыйныя праграмы аб шматкультурнасці Падляшша.

— Мы і зараз не шкадуем, што паставілі ўказальнікі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах. Двухмоўныя ўказальнікі ў нас ёсць і будуць, а ўчыненае злачынства не мяняе нашага падыходу да карыстання правамі, якія належаць нацыянальным меншасцям, — гаварыў войт Пётр Сэльвесюк. — Аднак калі б двухмоўныя дошкі з назвамі мясцовасцей знаходзіліся ў большай колькасці нашых гмін, рызыка, што будуць замаляваныя ўказальнікі ў адной гміне, паменшала б.

— Колькі разоў замалююць беларускія надпісы, столькі разоў трэба іх ставіць, каб усе ведалі, што тут ёсць шматкультурнасць, дэмакратыя, што маем права і гэтым правам карыстаемся, — заявіў намеснік прэзідэнта Беластока Аляксандр Сасна.

— Калі б двухмоўныя ўказальнікі стаялі ў большай колькасці нашых гмін, не было б гэтага вандалізму ў нас, — лічыць дырэктар ГАК у Орлі Анна Несцярук. — Тры нашыя гміны, у якіх самы вялікі адсотак жыхароў у час перапісу насельніцтва праведзенага ў 2002 годзе назваў сябе беларусамі (невядомыя яшчэ вынікі мінулагодняга перапісу ў маштабе гмін), гэта Чыжоўская, Дубіцкая і Арлянская гміны. Калі б цяпер улады Чыжоўскай і Дубіцкай гмін рашыліся паставіць у сябе ўказальнікі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах, гэта ўзмоцніла б еднасць беларусаў.

— Калі б у большай колькасці нашых гмін былі двухмоўныя дошкі, вандалы баяліся б замалёўваць іх, — сказаў старшыня арлянскага таварыства Сяргей Мартыновіч.

Зараз двухмоўныя ўказальнікі ў Падляшскім ваяводстве стаяць толькі ў дзвюх гмінах: Пунскай, з назвамі мясцовасцей на літоўскай мове, і ў Арлянскай, з надпісамі па-беларуску. Чаму замалявалі табліцы і хто гэта зрабіў? — такія пытанні ставяць жыхары Арлянскай гміны, якія адназначна даюць адмоўную ацэнку, паводле іх, хуліганскім вылазкам. Пакуль няма адказаў на гэтыя пытанні, а спецыяльная група паліцыянтаў займаецца, між іншым, справамі нішчэння двухмоўных указальнікаў у Пунскай гміне, выканання антыяўрэйскіх надпісаў на сінагозе ў Орлі, антыяўрэйскіх надпісаў і знішчэння помніка ў гонар загінуўшых яўрэяў у Ядвабным, аб чым можна было нядаўна даведацца ў час пасяджэння Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей. Паліцыя заверала тады, што прыярытэтным будзе для яе выяўленне злачынцаў гэтых здарэнняў.




## PROGRAM XXXI Międzynarodowego Festiwalu Muzyki Cerkiewnej — „Hajnówka 2012”

Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok

**OTWARCIE FESTIWALU**

**15.05.2012 (wtorek) godz. 18⁰⁰**

**Chór Politechniki Białostockiej** pod dyr. Wioletty Miłkowskiej
**Kijowska Męska Kapela Chóralna im. L. Rewuckiego** pod dyr. Jurija Kuracza

**PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE**

**16.05.2012 (środa) godz. 17⁰⁰**

**Zespół Staroobrzędowców „Suprjadki”** - Narva (Estonia); **Chór „Omofor”** - Nowyje Zasimowiczi (Białoruś); **Dziecięcy Chór Cerkiewny** - Kiszyniów (Mołdawia); **Chór Cerkiewny „Błagowist”** - Kamieniec Podolski (Ukraina); **Chór „Vila”** - Prijedor (Republika Serbska — Bośnia i Hercegowina); **Ukraiński Zespół „Dżereło”** - Białystok (Polska); **Wyrzyski Chór Męski** - Wyrzysk (Polska); **Chór Akademicki Politechniki Warszawskiej** - (Polska)

**17.05.2012 (czwartek) godz.17⁰⁰**

**Chłopięcy Chór „Academia Campanelli”** - Kiszyniów (Mołdawia); **Dziecięcy Chór „Wiesnianka”** - Moskwa (Rosja); **Chór Gimnazjum im. I. Achriemczyka** - Mińsk (Białoruś); **Chór Żeński X Liceum Ogólnokształcącego w Białymstoku** - (Polska); **Chór „Pro musica” Uniwersytetu Wileńskiego** - Wilno (Litwa); **Chór „Daugava”** — Daugavpils (Łotwa); **Kameralny Chór „Moskowskije piewczyje”** - Moskwa (Rosja); **Kapela Chóralna Narodowego Uniwersytetu Technicznego Białorusi** - Mińsk (Białoruś)

**18.05.2012 (piątek) godz. 17⁰⁰**

**Chór „Brevis”** - Mińsk (Białoruś); **Chór Męski Towarzystwa Śpiewaczego „Lira”** - Warszawa (Polska); **Akademicki Chór „Divine Harmony”** - Bukareszt (Rumunia); **Kameralny Chór „Musica Aeterna”** - Jerozolima (Izrael); **Męski Zespół „Didgori”** - Tbilisi (Gruzja); **Kameralny Chór „Woskriesinnia”** - Iwano-Frankowsk (Ukraina); **Chór „Preludiu” Narodowego Centrum Sztuki** - Bukareszt (Rumunia); **Męski Chór Państwowej Filharmonii Północnej Osetii-Alanii** - Władykaukaz (Rosja)

**ZAKOŃCZENIE FESTIWALU**

**19.05.2012 (sobota)**

**godz. 14³⁰ Ogłoszenie wyników i wręczenie nagród**
**godz. 16⁰⁰ Koncert Galowy**





# Гадавіна „ВЯСНЫ”

*Шаснаццаць гадоў прайшло з таго часу, калі група аднадумцаў сабралася, каб утварыць арганізацыю, якая будзе дбаць пра людзей якія падвяргаюцца палітычнаму пераследу або церпяць за свае погляды і перакананні. „Вясна-96”. Такую далі назву гэтай арганізацыі вясной 1996 года. Яе старшынёй стаў ужо і дагэтуль вядомы адраджэнец і патрыёт Алесь Бяляцкі.*

*Арганізацыю „Вясна-96” пасля актыўнага маніторынгу за выбарамі 2001 года зачынілі. Фармальныя прычыны на тое, як заўсёды, знайшліся. Але праваабаронцы не спынілі сваёй дзейнасці. Ніхто, і аніякае заканадаўства не можа забараніць чалавеку стаць праваабаронцам і змагацца за правы іншых людзей. Беларускае заканадаўства таксама гэтага афіцыйна не забараняе.*

*Збор і распаўсюд інфармацыі пра затрыманых, інфармаванне грамадскасці, маніторынг, змаганне ў судах, юрыдычныя кансультацыі, пошук адвакатаў, матэрыяльная дапамога пацярпелым… Гэта толькі дробны пералік той працы, якую руплівa ўсе гэтыя гады рабілі праваабаронцы.*

*— Ніхто некалі не скажа, што ў гэты час тут ніхто нічога не рабіў, — заявіў у сваім заключным слове на пасяджэнні суда над ім нязменны кіраўнік гэтай арганізацыі Алесь Бяляцкі.*

*Сапраўды, чаго варты быў бы народ, чаго варта была б нашая нацыя, каб не мела сваіх праваабаронцаў, што гатовыя ахвяраваць дзеля высокіх ідэалаў. Ці меў бы такі народ перспектывы і будучыню, каб не меў у сваёй нацыянальнай душы галоўных хрысціянскіх і агульначалавечых памкненняў, сярод якіх непераадольная прага і нават жыццёвая неабходнасць памагаць бліжняму, змагацца за справядлівасць, за свае погляды і перакананні, і самае галоўнае для праваабаронцы, бараніць правы іншых за магчымасць спавядаць іх погляды і перакананні, нават тады, калі сам гэтых поглядаў не падзяляеш. Чаго варта была б краіна, каб не знайшлося ў ёй людзей, якія шчыра спачуваюць тым, каго пераследуюць, і тым, хто ў няволі.*

*Зараз кіраўнік „Вясны” сам адбывае зняволенне. „Моцна за мяне не перажывайце”, — піша ён з калоніі, як заўсёды больш заклапочаны тым, каб не перажывалі за яго іншыя, чым сваім цяперашнім не самым прываблівым станам. І нават у такой сітуацыі Алесь шукае магчымасць выкарыстаць час з карысцю, бо вельмі цэніць жыццё, кожную яго хвіліну. „Сёлета юбілей Максіма Танка, — дадае ён у сваім лісце з калоніі, — вось жа я хачу перачытаць яго”.*

*Алесь быў і ёсць сапраўдным натхняльнікам сваіх паплечнікаў. Шмат чаго здарылася і змянілася за гэтыя шаснаццаць гадоў. Але „вясноўцы” засталіся пры сваіх перакананнях і ідэалах. Беларуская мова, нацыянальныя і духоўныя каштоўнасці, гістарычная ды культурная спадчына, беларускія народныя традыцыі, і памяць… Памяць пра тых, хто змагаўся за лёс сваёй нацыі і вера ў лепшае будучае сваёй краіны. І для гэтай будучыні трэба перш за ўсё каб была справядлівасць. Справядлівасць, дзеля якой варта жыць і дзеяць.*

*У сённяшнім свеце хто толькі не называе сябе праваабаронцам. Але ніхто не скажа, што вясноўцы незаслужана карыстаюцца гэтым велічным і чалавечным паняткам. Усе шаснаццаць год працы пацвердзілі гэта. Пацвердзілі гэтак жа, як і паплечнікі, і аднадумцы з іншых беларускіх праваабарончых арганізацый, гэтак жа, як і калегі праваабаронцы з іншых краін, якія абралі вясноўца Алеся Бяляцкага віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека.*

*Быць праваабаронцам гэта так натуральна для кожнага чалавека. Нельга праходзіць ля чужой бяды і рабіць выгляд, што нічога не заўважаеш. Нельга заставацца з боку ад праблем грамадства. Нельга грэбаваць такой зразумелай кожнаму з’явай як права чалавека. Права тваё, і права іншага. Нельга не прагнуць справядлівасці.*

*І таму вясноўцы ў свой шаснаццаты год нараджэння ўпэўненыя, што шэрагі праваабаронцаў на Беларусі будуць расці. І словы „правы чалавека” стануць зразумелыя і натуральныя для кожнага беларуса. Для гэтага шмат зроблена за гэтыя шаснаццаць гадоў.*

**Віктар САЗОНАЎ**

# Праследаванні ў Беларусі

*Сяргей Падсасонны, беларускі журналіст з тэлебачання Белсат быў госцем ольштынскай аўдыторыі 18 красавіка г.г. Народжаны ў 1981 годзе, закончыў два факультэты на Гомельскім універсітэце, дактарызаваўся ў 2006 годзе. За апазіцыйную і журналісцкую дзейнасць быў арыштаваны ў 2008 годзе. Сёлета ўцёк у Польшчу.*

*Гаворыцца ў Польшчы, — казаў ён, — што на Беларусі чыста. Гэта праўда, вакол жылых блокаў чыста, ёсць нават ежа, але няма свабоды. Многім гэтага хапае, але не ўсім. Палякі, мабыць, больш ведаюць пра Егіпет, чым пра Беларусь, бо на поўдзень ездзяць часцей. Для паездкі ў Беларусь трэба мець візу, а гэта многіх зневахвочвае. А варта на свае вочы пабачыць Беларусь. Мы змагаемся за правы чалавека і за свабоду слова. Сёння ў Беларусі выходзяць толькі дзве незалежныя ад улад газеты. Можна слухаць радыё Рацыя, Еўрарадыё, Свабода ды глядзець тэлебачанне Белсат. Аднак яно можа даходзіць толькі да мільёна гледачоў, а гэта нямнога ў параўнанні з дзесяцю мільёнамі насельніцтва Беларусі. Усе могуць аглядаць дзяржаўнае, лукашэнкаўскае тэлебачанне.*

*Праследуюць так, як калісь апісаў Салжаніцын — стукаюць рана ў дзверы. Могуць арыштаваць на дзесяць дзён за тое, што чалавек носіць бел-чырвона-белы шалік. Могуць затрымаць, бо маеш фотаапарат у наплечніку і будуць табе ўталкоўваць, што іх праследуеш. Могуць абвінаваціць, што сікаеш у публічным месцы — і не дакажаш, што так не было, калі абвінавачвае міліцыя.*

*Я — прадаўжаў Сяргей Падсасонны — уцёк з Беларусі легальна. Спакаваў валізку і выйшаў з дому. Ніхто не прыкмеціў, бо гэта была ноч, з суботы на нядзелю; яны таксама маюць свабоднае, але ўжо ў панядзелак прыйшлі мяне арыштаваць. А я рабіў розныя рэпартажы, напрыклад, пра гомельскі Катынь. Ёсць там брацкая магіла з прастрэленымі чэрапамі. Афіцыяльная версія падае, што гэта зрабілі немцы. Аднак у магіле ёсць кулі з 1937 года, якімі карысталася НКВД. Былі тэлефоны, каб гэтай тэмы не кранаць, а я і так зрабіў фільм; за гэта пагражала два гады астрога.*

*Праца журналістаў Белсата вельмі рызыкоўная. Яны працуюць без акрэдытацыі, аднак, дзякуючы ім, выходзяць перадачы, якіх ніхто іншы не выпускае. Зарабляюць яны ўдвая больш чым мы ў Варшаве, але калі выходзяць на працу, не ведаюць ці вернуцца. Шмат журналістаў прапала бясследна. Яны малайцаватыя, хаця здараецца, што пасля арышту, допытаў і пагроз адмаўляюцца працаваць для нас. Мы ў Варшаве часта сумняваемся, ці можам пасылаць іх у небяспечныя месцы ў Беларусі. Ды мы памаглі многім асобам апраўдацца перад судамі; вядома — не ў палітычных справах. Званім да чыноўнікаў і яны з намі часта лічацца.*

*Калі пачыналі, ніхто не верыў у поспех гэтага праекта. Тады працавала некалькі асоб, а паведамленні доўжыліся тры хвіліны; цяпер іх дзвесце, а галоўная інфармацыйная перадача трывае дваццаць пяць хвілін.*

*Апазіцыя ў Беларусі пасля 2010 года вельмі змянілася. 19 снежня 2010 года была ў нас надзея, што прачнемся ў іншай дзяржаве, аднак гэта не адбылося. Цяпер, праўда, падтрымка Лукашэнку падае, але не расце падтрымка апазіцыі. Беларусі немагчыма памагчы; беларусы мусяць памагчы сабе самі. Ні Польшча, ні Амерыка, ні Еўрасаюз у нічым не выручаць беларусаў, а яны збунтуюцца толькі тады, калі ім голад загляне ў вочы.*

*Як вядома, беларусы і ўкраінцы дзяляцца на прарасійскіх і нацыянальна свядомых. У Беларусі гэты падзел невыразны, а беларускасць душыцца. Гістарычны беларускі сцяг лічыцца нелегальным, міліцыянер можа забараніць гаварыць на вуліцы па-беларуску. Закрыты беларускія школы, у тэлебачанні толькі некаторыя навіны чытаюцца па-беларуску, а большасць па-руску.*

*У час Другой сусветнай вайны загінуў кожны трэці жыхар Беларусі і з гэтага ў беларусаў узнік комплекс ахвяры. Нашы суплямennікі насцярожана адносяцца да цяперашняй Польшчы. Дзяржаўныя медыі ўталкоўваюць, што Польшча хоча вярнуць сваю частку Беларусі. Нават мая бабуля, калі я трапіў у Варшаву, трывожылася, як я жыву ў гэтай Польшчы; гаварыла гэта такім голасам, быццам у Варшаве была вайна.*

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## Вачыма еўрапейца

# Разліўшы малако



*Прачытаў я нядаўна ў інтэрнэце справаздачу з дэбатаў, ладжаных Шлёнскім універсітэтам у Катавіцах, прысвечаных пытанню ці ўсеагульны перапіс насельніцтва і памяшканняў, праведзены летась, быў у сапраўднасці ўсеагульным і як прыменены ў яго апрацоўцы метад адлюструе сапраўдны воблік Польшчы, у тым і ейную г.зв. нацыянальна-этнічную структуру. Варта прыгадаць, што поўныя вынікі, згодна паведамленню дырэкцыі Галоўнай статыстычнай управы (ГСУ), якая ладзіла і правяла перапіс, маюць быць вядомыя на зломе мая і чэрвеня. Яшчэ ў лютым г.г. словамі свайго прэсавага інфарматара Артура Сатара ГСУ запэўнівала: „Я перакананы, што вынікі перапісу пакажуць добрасумленны вобраз нацыянальна-этнічнай і моўнай структуры насельніцтва Польшчы, асабліва ж высвецяць колькасныя станы грамадскасцей, пра якія мова ў законе аб нацыянальных і этнічных меншасцях”. Некалькі дзён пазней, напярэдадні беластоцкага пасяджэння супольнай камісіі ўрада ды нацыянальных і этнічных меншасцей, дыскусія, у час якой выказвалася занепакоенасць адносна верагоднасці перапісу ў пунктах датычных сапраўднай колькасці меншасцей, сягала зеніту. Свае апаскі выказвалі, м.інш., менавіта сябры камісіі: „Вынікі поўнага перапісу (г.зн. цераз інтэрнэт) адносна нацыянальна-моўнай праблематыкі не маюць практычнага значэння і папраўдзе не паўплываюць на афіцыйныя вынікі перапісу адносна нацыянальна-этнічнай структуры ў маштабе краіны”. Значыць, увесь зрух меншасцей у справе інтэрнэтнага перапісу, усе дзеянні не мелі ніякага практычнага сэнсу, уся вартасць вынікаў поўнага перапісу (цераз інтэрнэт) будзе зведзена да таго, што — як гэта ўзнёсла названа ў нататцы ГСУ (словамі яго прэсавага інфарматара — М. Х.) — „усе адказы на нацыянальна-этнічныя пытанні, атрыманыя па-за рэпрэзентатыўным апытаннем, маюць каштоўную пазнавальную і метадалагічную вартасць у якасці крытэрыя праверкі і выпраўлення годнасці рэлятыўных ім паказчыкаў”.*

*У ходзе дэбатаў на Шлёнскім універсітэце зноў выявіліся сумненні наконт перапісу. На здзіў удзельнікаў гэтых дэбатаў, навукоўцаў — спецыялістаў па сацыялогіі, юрыспрудэнцыі і дэмаграфіі, дырэктар Гражына Віткоўска з ГСУ пакарысталася, здаецца, метадам аброны шляхам атакі (цытую за штодзёнкай „Gazeta Wyborcza”):*

*— Навуковае асяроддзе павінна загадзя схіліцца над гэтым, а не плакаць над разлітым малаком.*

*Тут хачу прыгадаць, што навуковае асяроддзе і прадстаўнікі нацыянальных меншасцей звярталі ўвагу на апаскі адносна метадалогіі правядзення перапісу і апрацоўкі яго вынікаў. Адзін з удзельнікаў катавіцкіх дэбатаў сацыёлаг д-р Тамаш Наўроцкі пытаўся, здаецца рытарычна, чаму ў час працы над перапісам былі сумешчаны некалькі розных метадаў. Апрача непасрэдных размоў з перапісчыкамі многія асобы былі апытаны па тэлефоне, а іншыя пакарысталіся самаапісаннем цераз інтэрнэт:*

*— Не хачу нічога ацэньваць, але маю сумненні. Перад сумяшчаннем такіх метадаў асцерагаю сваіх студэнтаў.*

*Я згодны з д-рам Наўроцкім, што сумненні ў метадалагічных прыёмах наконт перапісу магла б развеяць сама ГСУ, калі б загадзя абнародавала адпаведную справаздачу. Тым часам мае яна паказацца толькі ў 2013 годзе, бо такі тэрмін, як сцвярджала дырэктар Віткоўска, вынікае з закону. Дарэчы, дата публікацыі гэтай справаздачы мае ўжо меншае значэнне, бо — карыстаючыся выказваннем спадарыні Віткоўскай — „малако разлілося”. Справаздача, мабыць, паслужыць для апрацоўкі метадалогіі чарговага перапісу, за дзевяць гадоў.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Палессе — Падляшша — Амерыка

Недзе ў зімовы час быў заглянуў у нашу рэдакцыю спадар Збігнеў Насядка і шапнуў мне, што ў вёсцы Конты Ясяновецкай гміны пражываюць людзі, якія перасяліліся туды ад Жабінкі на Палессі. Паколькі больш дэталяў ён мне не сказаў, дык падумалася было мне, што тыя перасяленцы апынуліся там у выніку міграцыйных працэсаў пасля апошняй вайны. Вестка спачатку зацікавіла мяне. Пасля я глянуў на мапу і пабачыў, што тыя Конты з'яўляюцца даволі асаблівай вёскай, што яны рассеяны па хутарах без нейкага відавочнага цэнтра, напрыклад шчыльней заселенай вуліцы. А гэта магло прадвяшчаць крыху складанасцей з пошукам суразмоўцаў. Чакаў я тады цяплейшага часу, калі людзі выходзяць з хат пад адкрытае неба.


Касцёл у Ясяноўцы

Вёска Конты, а дакладней гаворачы, яе тэрыторыя, распаложана паміж Кнышынам і самой Ясяноўкай. Падаўся я туды з боку Кнышына, мінуўшы вёскі Яскра і Хаботкі. Неўзабаве па галоўнай шашы паявіліся невялікія сінія паказальнікі на лясныя дарожкі да паасобных контаўскіх хутароў. Але ці там магчыма будзе атрымаць патрэбную мне інфармацыю? Ну, але мапа паказвала, што найбольш такіх сяліб непадалёк дарогі, якая лукаватым выгібам адыходзіць і вяртаецца да тае шашы, што спалучае згаданыя раней цэнтры гмін.

Слоў пару яшчэ пра гэтую дарогу. Яна ў тамашнім наваколлі называецца Каралеўскай, бо тудою праходзіў калісьці шлях з Мазовіі цераз Гародню ў Вільню. Напэўна падарожнічалі тою дарогай каралі Жыгімонт Аўгуст, які найахвотней бываў у Кнышыне, ды Стэфан Баторый, які зноў вельмі любіў бываць у Гародні. Пэўна па той дарозе калясілі і іншыя каралі. У апісанні Кнышынскай парафіі з 1794 года пробашч так ахарактарызаваў тую дарогу: „Droga z Knyszyna do Jasienowki piaszczysta, a przez część korzenista. Jazdy letnią drogą godzin trzy, zimową dwie”. У той сам час карыцінскі пробашч інакш бачыў тую дарогу: „Droga z Korycina do Tykocina prosta, należycie uregulowana...”. У 1909 годзе Напалеон Роўба пісаў, што з Ясеноўкі „do Knyszyna buduje się szosa”.

І недзе ў пачатку 1960-х гадоў быў тудою праехаўся і я, едучы з Беластока ў напрамку Аўгустава; чаго я тады туды ездзіў — не помню, гэта ж было пяцьдзесят гадоў таму. І не ведаю, чаму ў Аўгустаў тады трэба было даваць круг цераз Кнышын. Але ж тады нават з Гайнаўкі ў Беласток зручней было ехаць самаходам цераз Бельск; мабыць, цераз Нарву не было яшчэ адпаведнага для самаходаў насцілу. У той час між Кнышынам і Ясяноўкай ляжаў брук. Сёння ляжыць там асфальт.

Падаўся я ў бакавую асфальтовачку за дарожным паказальнікам, які паведамляў, што ў Конты адзін кіламетр. Было некалькі хутароў крыху ад тае дарогі адлеглых, але вось па тым кіламетры паказалася некалькі забудоў пры дарозе. За адным з садкоў пабачыў я мужчыну, што матыкай узрыхляў невялікі загончык...

Мужчына аказаўся неабыякавым да мясцовай гісторыі. Па адукацыі, як мне сказаў, ён інжынер і жыве ў Беластоку, але туга па родным цягне яго менавіта ў той ягоны родны кут, на родны палетак. Выказаў ён шкадаванне, што гісторыяй свайго найбліжэйшага наваколля зацікавіўся запозна, калі ўжо няма ў жывых многіх яе відавочцаў. Сказаў ён мне, што сапраўды, у Контах калісь жылі перасяленцы ад Брэста і займалі яны даволі вялікі абшар. Цяпер іх ужо там няма, мо толькі яшчэ дзве-тры асобы іхніх нашчадкаў асталіся.

Калі на зломе XIX і XX стагоддзяў будавалі абшырную брэсцкую крэпасць, расказваў мой інфарматар, узнікла неабходнасць высялення нейкай часткі насельніцтва, каб вызваліць неабходныя для задуманай фартыфікацыі абшары. Не ўсім царскія ўлады прапанавалі выезд у Сібір, некаторым жыхарам брэсцкага наваколля запрапанавалі паўночнае Падляшша, м.інш. Фасты і Старасельцы. Ну і Конты, дзе была вольная прастора ад тамашняга маёнтка. Тады адразу быў той маёнтак падзелены на кампактныя хутары; у Контах не было цераспалосіцы.

Перасяленцы, аднак, цяжка там ужываліся, тужылі па сваім Палессі. І вось настала неспадзяваная нагода вярнуцца ім назад, на радзіму продкаў. У 1929 годзе ўспыхнуў сусветны гаспадарчы крызіс; успыхнуў ён у Злучаных Штатах Амерыкі. І шмат тамашніх эмігрантаў рашыла вярнуцца назад, у Польшчу. За заробленыя ў Амерыцы грошы яны сталі купляць зямлю на радзіме сваіх продкаў. Яны паказаліся і ў Конты, дзе палескія перасяленцы сталі ахвотна прадаваць свае надзеленыя царскімі ўладамі гаспадаркі. Куды яны з Контаў паехалі — невядома, але трэба меркаваць, што атрыманыя амерыканскія долары павезлі яны ў бок Брэста, каб іх памяняць на тамашнюю зямлю, да якой іх цягнула настальгія.

Яшчэ пры жыцці майго субяседніка жылі ў Контах адзінкі, што на Палессі нарадзіліся, у іх лікі і жыхарка суседняга хутара; яе мовы мой суразмоўца не разумеў. Яшчэ жыве ейны сын, якому ўжо 85 гадоў, ён часам расказвае пра ваенныя падзеі 1944 года, што разыграліся ў Контах, дзе згарэлі шматлікія збудаванні, калі на два тыдні спыніўся фронт на недалёкай рацэ Бярозаўцы. Мой інфарматар раіў мне наведаць яго, але я не захацеў трывожыць адзінока жывучага пажылога чалавека, бо ж сутнасныя інфармацыі я ўжо атрымаў.

Няма ўжо ў Контах палешукоў, але і нашчадкі іх пераемнікаў таксама вымываюць адтуль. Мой субяседнік паказаў мне неадлеглы лясок, з выгляду пяцідзесяцігадовы, і сумна заўважыў, што калісь ягоны дзед яшчэ карчаваў там пні для закладкі поля, а цяпер лес зноў вяртаецца ў тое самае месца і наваколле абязлюджваецца. Калі я заўважыў, што людзі ўсё ж такі зямлю абрабляюць, адказаў мне ён, што абрабляюць адно тыя, у каго больш ста гектараў, а іншыя ўжо толькі дажываюць. І сапраўды, у тамашнім наваколлі вяршыні ўзгоркаў зарослыя маладым лесам, хаця не ў такой яшчэ ступені, як на Усходняй сцяне між Мельнікам і Крынкамі; але працэс ідзе ў тым самым напрамку.

Завяршаючы расказ пра былых царскіх пасяленцаў у Контах, мой субяседнік павёў рукою ў бок Ясяноўкі і Ясвіл, дадаючы, што яшчэ нядаўна людзі там гаварылі нават „po rosyjsku”. „A nie po białorusku?” — спытаў я. „A skąd po białorusku, jak Białoruś jeszcze od niedawna?” — крыху здзівіўся ён. Вось так звычайныя тамашнія, нават адукаваныя, людзі думаюць, што і Беларусь з'яўляецца звычайнай дзяржавай, а яна ж — такая незвычайная...

З Контаў падаўся я ў бок Ясяноўкі. Даходзячы да гэтай гміннай мясцовасці пабачыў я іншую мясцовую этнакультурную пазнаку. Менавіта з Ясяноўкі ў бок Ясяновачкі ехала фурманка з запрэжаным у сцягнутыя дугой аглоблі канём.

Сама Ясяноўка не спазнала такой вядомасці як Кнышын. Міхал Балінскі ў 1846 годзе так пісаў пра яе: „Milę odległości od Knyszyna, w stronie północnej, leży licha ta mieścina, własność Kuczyńskich. Roku 1775 znajdowało się 58 domów podymne opłacających”. Але і ёй з'явіўся шанс трапіць, мо не на перадавіцы, але ў глыбінкі сродкаў масавай інфармацыі.

Менавіта недзе з-пад Ясяноўкі ў 1903 годзе — значыць менш-больш тады, калі ў Конты Каралеўскім шляхам перасяляліся палескія мужыкі — у Злучаныя Штаты Амерыкі выехаў малады кравец Стэфан Марцішэўскі і пасяліўся ў Рамфардзе, адным з гарадкоў на захадзе штата Мэн. Амерыканскі пісака, які там афармляў яму дакументы, не надта мог справіцца з прад'яўленай яму іншаземнай фанетыкай і запісаў прозвішча навічка ў выгаднай яму скарочанай форме — Маскі (па-англійску Muskie). У 1911 годзе ён жэніцца з Джазефінай Чарнецкай, а тры гады пазней нараджаецца ім сын Эдмунд Сікстус. У час Другой сусветнай вайны Эдмунд служыў у амерыканскім ваенна-марскім флоце на Атлантыцы, а пасля вайны стаў на шлях палітычнай кар'еры ў радах Дэмакратычнай партыі. У 1955-1959 гадах займаў пасаду губернатара свайго штата, у 1968 годзе няўдала балатаваўся на пасаду віцэ-прэзідэнта ЗША, а чатыры гады пазней узяў на прыцэл найважнейшую пасаду хіба не толькі ў ЗША. Аднак у час аднаго з эмацыянальных выбарчых мітынгаў за намінацыю ад сваёй партыі Эдмунд Маскі праслязіўся, што назіральнікі палічылі невыбачальнай для найвышэйшай амерыканскай пасады слабасцю, і выбыў з прэзідэнцкай гонкі. Да таго ж яшчэ пашкодзілі яму не надта чыстыя прыёмы выбарчай кампаніі, якіх вяршыняй стала афёра Уотэргейт, у выніку якой зляцеў з найвышэйшай пасады сам прэзідэнт Ніксан. Яшчэ з мая 1980 года да студзеня 1981 года Маскі займаў пасаду дзяржсакратара ЗША пры прэзідэнце Картэры; памёр ён у 1996 годзе. Сам Эдмунд Маскі не надта прызнаваўся да падляшскіх каранёў — ён падаваў сваё паходжанне з-пад Познані; мабыць, адтуль выводзіліся продкі ягонай маці... Але Ясяноўку наведаў у 1959 годзе.

На заканчэнне вярнуся яшчэ раз на Каралеўскі шлях, ужо на ўсход ад Ясяноўкі. Вось што пра яго пішуць Юзаф Марошэк і Артур Студнярэк: „Po 1808 roku nastąpiła ważna zmiana w przebiegu gościńca wiodącego do Grodna. Poprowadzono go na wschód do mostu na Brzozówce pomiędzy Czarnymstokiem i Górnymstokiem przez Popiołówkę do Janowa z pominięciem Korycina”. Падаўся я тудою, паміж тымі „стокамі”, прыгадваючы сабе іншыя „стокі”, у тым ліку і такі „Górnystok”, які з іншага боку Беластока, з боку Палесся, на водападзеле Арлянкі і Лясной, і на іншай гаворцы атрымаў назву „Вэрх-сток”. Нашы пісары не горшыя за амерыканскіх, таксама выкінулі з гэтага слова сярэдзіну, адну толькі літару, і атрымаўся... Вэрсток.

## Знаёмствa з габрэйскай культурай



21 красавіка г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбыўся габрэйскі вечар „Пры шабасовых свечках”. Падчас мерапрыемства Антон Рэмеш распавёў пра габрэяў, якія жылі ў рэгіёне Белавежскай пушчы. Ён прыпомніў, што ў шматкультурную мазаіку Нараўкі належыць дадаць габрэйскую культуру, якая паўтара стагоддзя існавала на гэтай зямлі побач з хрысціянскай. Наплыў габрэйскага насельніцтва ў канцы XVII стагоддзя аказаў значны ўплыў на развіццё мястэчка над ракою Нараўкай, ператвараючы яго ў рамесны і гандлёвы цэнтр. Спадчынай па „сынах Майсея” засталося багацце матэрыяльнай і духоўнай культуры. Падчас Другой сусветнай вайны пачаліся масавыя знішчэнні габрэяў. З габрэйскіх могілак у рэгіёне Белавежскай пушчы найбольш вядомы кіркут у Нараўцы (тут каля 250 добра захаваных магіл).

У ходзе мерапрыемства апрача ўспамінаў можна было паслухаць габрэйскія мелодыі ў выкананні Сальці (зараз мае яна імя Яніна) і шмонцэсы (анекдоты), а таксама пазнаёміцца з рытуалам шабату і г.д.

На заканчэнне вечарыны адбыўся пачастунак габрэйскімі стравамі: латкес, паца, яйін і інш.

Варта дадаць, што ад часу заканчэння Другой сусветнай вайны ў Нараўцы такая сустрэча з габрэйскай культурай адбылася ўпершыню.

## Вуліцы і скверыкі папрыгажэлі

26 красавіка г.г. быў я на прагулцы па вуліцах Гайнаўкі. Настала вясна і на галінках дрэў усё больш і больш зялёных лісточкаў. Па ўсім відаць, што ўлады горада паклапаціліся пра добраўпарадкаванне вуліц — на іх чысціня і парадак. Вельмі прыемна прайсціся па вуліцах Пілсудскага, Паркавай і Белавежскай. Аднавілі аўтобусны прыпынак па вул. Беластоцкай (ён каля фабрычнай брамы). Здалі ў карыстанне навюсенькі прыстрэшак на прыпынку аўтобусаў гарадской камунікацыі па вул. 3 Мая (ён з боку скверыка насупраць Гарадской управы).

Не адзін раз пісаў я пра ўхабісты тратуар на вул. Пілсудскага за скрыжаваннем з вул. Арміі Краёвай ды ў напрамку вул. Варшаўскай. Цяпер убачыў раўнюсенькі ды шырокі тратуар з „польбруку”. Сустрэў я знаёмага з Гайнаўкі, які дайшоў на тое скрыжаванне дарог і ён мне паясніў, што гэта таму, што сюдою на працу ходзіць бурмістр горада. Ну і ўсё ясна! Мне вядома, што папярэдні бурмістр хадзіў з працы дадому ў другім напрамку. Дык ён узбоч вул. Баторыя перабудаваў і вуліцу, і тратуар.

Бачыў я шмат кветак на двух скверыках у цэнтры горада і на двух скрыжаваннях з кругавым рухам. Яны ўжо зацвілі. Я хадзіў, хадзіў ды прытаміўся. Сеў адпачыць на лавачцы. А лавачак у горадзе даволі многа. Яны прыгожыя і яшчэ як новыя. Усе з дрэва, матэрыялу найбольш прыязнага для чалавека.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Напярэдадні Міжнароднага дня кнігі (сёлета выпаў 23 красавіка) у зале Гарадскога асяродка спорту і рэкрэацыі завяршыўся першы, трохдзённы, агульнапольскі Кніжны кірмаш „На памежжы культур”. Прыцягнуў ён аж пяцьдзесят выдавецкіх суб’ектаў.

# Кірмаш — выдатная задума

Тэкст і фота
**Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**




— З наступнага года будзе яна трансгранічным мерапрыемствам. Сёлета мы пачалі наладжваць кантакты з партнёрамі з-за ўсходняй мяжы і ўжо сёння ведаем, што чарговы выпуск Кніжнага кірмашу ў Беластоку будзе яшчэ цікавейшы, — згодна заяўляюць Анджэй Каліноўскі і Пётр Брысач з фонду „Суседзі”, які — запар з Падляшскай ксёнжніцай — ладзіў усё мерапрыемства.

Гэтага мерапрыемства (нягледзячы на захады арганізатараў) не падтрымалі ні Маршалкоўская ўправа, ні беластоцкая Гарадская ўправа, якія палічылі, што імпрэза мае камерцыйны характар, таму і нельга яе падтрымаць фінансава і — як выпадае меркаваць — не служыць яна прамоцыі так горада, як і рэгіёна. Прыгадаем: шматтысячныя датацыі ад беластоцкай Ратушы атрымліваюць такія камерцыйныя (!) мерапрыемствы як „Pozytywne Wibracje”. Ужо пасля завяршэння кірмашу спыталі мы старшыню Камісіі культуры Гарадской управы Мацея Бярнацкага што ён думае пра адмову падтрымкі гэтага мерапрыемства беластоцкімі ўладамі.

— Я дзіўлюся такому рашэнню. Гэта ж выдатная прамоцыя горада, і то не толькі ў Польшчы.

У адкрыцці кірмашу ўсё ж такі прысутнічаў прадстаўнік магістрата, намеснік прэзідэнта горада Аляксандр Сасна. Гаварыў ён да шматлікіх наведвальнікаў выдавецкіх стэндаў:

— Віншую арганізатараў, якія ўмелі прыцягнуць стольскіх экспанентаў, у час, калі мы ўсе намагаемся карыстацца інтэрнэтам і іншымі электроннымі медыямі, а кніга адыходзіць на далейшы план.

Пётр Брысач у размове з „Нівай” гаварыў пра ўдзел у кірмашы беларускіх выдавецтваў (у будучыні не толькі з Беласточчыны):

— Пакуль што прабуем улавіць тое, што маем на беластоцкім грунце. У наступным годзе прыйдзе, мабыць, чарга і на супольныя праекты, пра якія мы марылі спачатку, значыць, супольныя польска-беларуска-літоўска-ўкраінскія. Гэта вельмі складаная справа. Ёсць, аднак, шанс на супольнае „выгортванне” беларускіх, літоўскіх ці ўкраінскіх літаратур з абодвух бакоў нашай усходняй граніцы, пралягаючай так недалёка.

На кірмашы было мноства кніжак для дзяцей і заходняй папулярнай мастацкай прозы. Мясцовыя экспаненты напрошваліся прапановамі альбомаў памерлага нядаўна выдатнага фатографа Віктара Волкава.

Адзін са стэндаў наладзіла Радыё Рацыя, якое дало месца іншым беларускім выдавецтвам. Можна там было заўважыць кнігі Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, Літаб’ядання „Белавежа”, Беларускага гістарычнага таварыства, Згуртавання „АББА” і „Villa Sokrates”, Праграмнай рады нашага тыднёвіка. Працягам двух дзён свае публікацыі падпісваў тут паэт Віктар Швед; можна было таксама заўважыць паэтэсу Міру Лукшу.

Марцін Рэмбач з Радыё Рацыя, старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, вітаючы за стэндам беларускіх чытачоў, разам м.інш. з загадчыкам вяшчання і адначасна шэфам „Нівы” Яўгенам Вапам, заахвочваў:

— Наш Цэнтр прэзентуе кнігі Міхала Андрасюка „Wagon drugiej klasy” і „Biały koń” (апошняя была ўзнагароджана сёлетняй літаратурнай прэміяй прэзідэнта Беластока — М. Х.), Віктара Сазонава „Notatki przemytnika” і „Bajdy sąsiedzkie”, а таксама „Białoruski kalendarz historyczny” Уладзіміра Хільмановіча. Можа гэта не надта відаць, аднак зацікаўленне беларускімі кнігамі ёсць, хаця кніжны рынак у Польшчы шчыльна запоўнены. Такі кірмаш дапамагае дайсці да чытачоў, зацікаўленых таксама і беларускай літаратурай.

Беларускі стэнд, з прапановамі як на польскай, так і на беларускай мовах карыстаўся значным зацікаўленнем. У адзін момант падышоў да яго мужчына і выканаў здымкі паасобных кніжак. Аказаўся ім д-р Ежы Хатлас з бібліятэкі Універсітэта Адама Міцкевіча ў Познані. На пытанне, адкуль такое зацікаўленне, адказаў:

— Мы прынцыпова павінны мець у нашай бібліятэцы прынамсі па адным асобніку кніг, якія выдаюцца ў Польшчы. Працаўнікі нашай бібліятэкі ездзяць на розныя кірмашы. Сёлета наша дырэкцыя вырашыла, каб мы наведалі кірмашы аддеглыя ад Познані і сабралі прапановы ад перыферыйных выдавецтваў, асабліва датычных нацыянальных меншасцей і лакальнай тэматыкі. Таму я сюды і апынуўся.

Зараз пасля яго да стэнда падышла — як неўзабаве нам прызналася — лекарка па прафесіі, а рэгіяналка па захапленні Эва Звежынска, якая купіла „Sivu zozulu” ўраджэнца Трасцянкі Віктара Стахвюка:

— Цікавіць мяне мясцовая тэматыка і шматкультурнасць Падляшша. У мяне беларускія карані і цешуся, што магу заглянуць на такі стэнд. Я сама паходжу з Бельска-Падляшскага; цяпер жыву ў Беластоку. Купіла я кніжку спадара Стахвюка, бо яна напісана па-свойму, на падляшскай гаворцы. Гэта мяне цешыць, бо на гэтай мове гаварыла мая бабуля родам з Галадоў і гэтай гаворкай валодае таксама мой бацька; я сама яе яшчэ не засвоіла. Цешуся, што словы гэтай мовы магу пабачыць у пісьмовым відзе.

Кірмаш суправаджалі сустрэчы з пісьменнікамі. У іх ліку былі ўраджэнец Гайнаўкі Міхал Андрасюк і прызнаны на агульнапольскай літаратурнай ніве Ігнат Карповіч, які выводзіцца з вёскі Случанка. Першы з іх прызнаўся, што зараз „змагаецца са зборнікам апавяданняў укаранелых у нашай, падляшскай рэчаіснасці”, а Марцін Рэмбач (перакладчык на польскую мову м.інш. „Белага каня”) „прымяркоўваецца да перакладу ранейшых апавяданняў, якія выйшлі на беларускай мове”. Ігнат Карповіч у сваю чаргу, які нячаста бывае ў Беластоку, аўтар м.інш. „Niehalo” і „Ballad i romansów”, якія прынеслі яму намінацыю да прэстыжнай літаратурнай прэміі „Nike” і — таксама прэстыжны — „Paszport «Polityki»”, сказаў „Ніве”:

— Цешуся, што ўрэшце ёсць у Беластоку кніжны кірмаш. Задумай г.зв. галіновага кірмашу Беласток, відома, не прыцягне экспанентаў. Добрым ходам можа быць выбар нейкай спецыялізацыі, як гэта ўжо бачна на прыкладзе дзіцячай кнігі ці альбомаў. Задума беластоцкага кірмашу, які ахоплівае Вялікае Княства Літоўскае, — выдатная! У гэтае рэчышча можна далучыць Фінляндыю і гэтую частку Еўропы.

Ігнат Карповіч прызнаўся нам пры нагодзе, што зараз працуе над сцэнарыямі да двух фільмаў, да таго ж з рэжысёрам Барткам Канопкам (вядомым з дакумента „Królik po berlińsku” і апошняга мастацкага „Lęk wysokości”) ды новым раманам пад рабочым загалоўкам „Słyszę co do mnie mówisz”.

— У гэтым рамане не будзе звышнатуральных здарэнняў, як у некаторых маіх кнігах. Ён будзе рэалістычны.

Перад закрыццём беластоцкага Кніжнага кірмашу яго арганізатары не скрывалі задавальнення. Анджэй Каліноўскі:

— Кірмаш пераўзышоў усе нашыя спадзяванні.

Пётр Брысач:

— Мы не спадзяваліся, што прыйдзе аж столькі народу. Аказваецца, што Беласток хоча чытаць кнігі.

Сапраўды. Аказваецца, што Беласток, г.зн. яго жыхары хочуць чытаць, таксама беларускія кніжкі.

# Дэпартацыі ў засені архіваў



Злева: Ежы Гжыбоўскі, Анатоль Вялікі, Ігар Кузняцоў

Пра дэпартацыі з савецкіх Беларусі і Літвы (не толькі палякаў), галоўным чынам пасля Другой сусветнай вайны, была мова ў ходзе навуковай канферэнцыі ў беластоцкім аддзеле Інстытута нацыянальнай памяці, ладжанай у 60-ю гадавіну апошняй вывазкі.

— Дакладчыкі нашай канферэнцыі мелі магчымасць дайсці да дакументаў, да якіх мы дабіцца не ў змозе, — сказаў ва ўступным слове выконваючы абавязкі дырэктара аддзела Радаслаў Пэтэрман.

— У нас, у Беларусі, такая канферэнцыя была б немагчымая, — адзначыў гісторык Ігар Кузняцоў, дацэнт на аддзеле міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску.

Канферэнцыя кранала, галоўным чынам, вывазак 1944-1952 гадоў, выкананых сіламі НКВД, КДБ і МУС Беларускай ССР. Пра свае даследаванні на гэтую тэму гаварыў:

— Гэта прагнозы, якія, мабыць, не надта можна будзе пацвердзіць у будучыні. У архівах беларускага КДБ знішчана многа дакументаў, у тым з 1944-1952 гадоў. Да статыстык трэба адносіцца насцярожана. У Беларусі архівы КДБ недаступныя. Ніхто там не займаецца рэпрэсіямі сталінскіх гадоў. Ні на вучэльнях, нідзе. Беларусь гэта адзіная з краін былога СССР, якая не абнародавала колькасці ахвяр таго перыяду. Паводле маіх звестак можна гаварыць пра мільён і шэсцьсот тысяч рэпрэсаваных (у разуменні, напрыклад, карна засуджаных на дэпартацыю — М. Х.)

З інфармацый, атрыманых дацэнтам Кузняцовым, вынікае, што — насуперак таму, што гаварыла і гаворыць беларуская прапаганда — у Беларусі ў даследаваны ім перыяд у двух трэціх выпадкаў не было г.зв. дабравольных міграцый; людзі ў выніку розных формаў прыгнёту былі прымушаны пакідаць месцы жыхарства. Найбольш перасяленняў у той час адбывалася на тэрыторыю заходняй і ўсходняй Сібіры, у Казахстан, на Урал і паўночны Каўказ. Для прыкладу (згодна інфармацыям Ігара Кузняцова), на Урал у час чарговых вывазак саслана ў 1938, 1945, 1950 і 1953 гадах адпаведна: звыш 244 тысяч асоб, 238 тысяч, звыш 264 тысяч, звыш 237 тысяч. Далей, напрыклад, у заходнюю Сібір: каля 243 тысяч, звыш 456 тысяч, каля 606 тысяч і 634 тысячы. У тым кантэксце дацэнт БДУ дадаў:

— Колькасці сасланых у тых гадах з колькасцямі прабываючых у тых рэгіёнах не супадаюць.

Галоўным адказным за рэпрэсіі ў Беларусі, у тым і за дэпартацыі, быў адзін з шэфаў служб бяспекі ў Беларусі да канца 1951 года Лаўрэнцій Цанава, званы Лаўрэнціем II (цёзкам сталінскага шэфа НКВД СССР Берыі). Асабістую адказнасць, паводле яго, павінны несці індывідуальна ўсе тыя, хто вырашаў і рыхтаваў спіскі вывазак на паасобных узроўнях беларуска-савецкай адміністрацыі:

— У беларускіх падручніках адсутнічаюць паняцці „дэпартацыі”, „рэпрэсіі”.

Пры нагодзе заўважыў:

— Польская Армія краёва гэта банды. У падручніках няма згадкі пра супольныя акцыі АК і беларускіх партызанаў супраць фашыстаў.

Загадкай застаюцца рашэнні пра дэпартацыі (і іншыя формы рэпрэсій — М. Х.) у Беларусі, якія выносілі не суды ці НКВД, але выканкамы, якія не былі дакументаваны.

Паводле Ігара Кузняцова, да паловы выпадкаў дэпартацый зусім нідзе не пазначана.

Дацэнт Анатоль Вялікі з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка падрабязна расказаў пра картатэкі нерэпрэсаваных, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у Мінску. Былі яны крыніцай ягоных даследаванняў пра дэпартацыі з заходняй Беларусі ў 1951-1952 гадах; пачынаў іх у 1992 годзе. Цяпер у Беларусі гэтыя картатэкі закрытыя. На пачатак Анатоль Вялікі адзначыў:

— Складана вызначыць агульную колькасць рэпрэсаваных у той час у Беларусі. Паводле маіх падлікаў, у мінскім Дзяржаўным архіве захоўваецца каля 180 тысяч спраў рэпрэсаваных. Аднак гэты лік не канчатковы. Калі далей можна будзе атрымаць доступ да астатніх спраў, сказаць складана.

У многіх справах, напрыклад з 1952 года, якія паказаў дацэнт Вялікі, занатавана, што асоб у той самы дзень арыштоўвалі і засуджвалі, а ў наступны дэпартавалі, але не пазначана якім судом і ці менавіта судом. У некаторых справах некаторыя рубрыкі не былі запоўнены і няма далучанага здымка асуджанага. У некаторых можна знайсці інфармацыю, што даная асоба з'яўляецца кулаком і гэта было падставай дэпартацыі, згодна рашэнню пра высяленне з Украінскай і Беларускай ССР, прынятаму ў студзені 1951 года Саветам Міністраў СССР. Анатоль Вялікі знайшоў ініцыятыўны дакумент пра масавае высяленне беларускіх кулакоў, прыняты ў 1949 годзе Цэнтральным камітэтам КПБ. Звяртаўся ён тады ў ЦК УКП(б) за дэпартацыяй з заходніх абласцей Беларусі трох тысяч кулакоў:

— Не было ясных крытэрыяў, якая гаспадарка лічыцца кулацкай. Колькасці кулакоў для дэпартацыі залежалі ад старшынь сельсаветаў і абласцей. Змаганне з кулацтвам мела галоўным чынам ідэалагічны характар. Улада пакідала кулакам пяць гектараў зямлі.

Адным з прыкладаў раскулачвання, прыведзеным мінскім вучоным, быў гаспадар з адной заходнебеларускай вёскі, на пачатку ўласнік дваццаці пяці гектараў зямлі. Пасля аб'яднання Заходняй Беларусі з усходняй часткай рэспублікі забралі яму 15 гектараў, а ў час нямецкай акупацыі забраная бальшавікамі зямля была яму вернута. Пасля бальшавікі тыя 15 гектараў зноў забралі, а гаспадара дэпартавалі за кулацтва, бо мала, што немцы тыя 15 гектараў яму вярнулі, але яшчэ „працаваў на той зямлі, калі іншыя змагаліся з фашыстамі”.

— Да кулакоў залічвалі таксама тых, што мелі дзесяць ці толькі сем гектараў зямлі, а да таго яшчэ два кані, дзве каровы, пяць свіней і г.п. — пералічваў дацэнт Вялікі.

У дакументах паяўлялася рубрыка датычная ўстановы, вырашаючай пра дэпартацыю — „іншыя органы”:

— Называюцца выканкамы ці суды, але невядома, што гэта за „іншыя органы”.

Д-р Ежы Гжыбоўскі, у сваю чаргу, расказваў пра дэпартацыі былых жаўнераў польскіх узброеных сіл на Захадзе з БССР у Сібір у 1951 годзе. Пасля вяртання ў родныя мясціны (у межах пасляваеннай Беларусі) лічылі іх антысавецкім элементам. Сорак адзін чалавек у 1948-1951 гадах быў асуджаны на турэмнае зняволенне. 1 красавіка 1951 года дэпартавана з БССР у Сібір 888 „андэрсаўцаў”, з іх ліку 689 не былі палякамі, але ў галоўнай масе беларусамі. Былі вывезены разам з сем'ямі (агулам 4 520 асоб).

— 75 адсоткаў дэпартаваных складалі беларусы, каля 23 працэнтаў — палякі, апошнімі былі літоўцы, украінцы і яўрэі, — гаварыў д-р Гжыбоўскі. — Прычынамі іх дэпартацыі былі: не служылі ў Савецкай Арміі, не заслужыліся савецкай радзіме, не ўдзельнічалі ў айчыннай вайне.

Д-р Гжыбоўскі прывёў ліст-скаргу аднаго з беларускіх „андэрсаўцаў” у пракуратуру БССР, асуджанага на дэпартацыю ў Іркуцкую вобласць: „у арміі называлі мяне кацапам, а цяпер кулаком”.

Пасля хрушчоўскай „адлігі” трэць тых „андэрсаўцаў” выехала ў Польшчу, палова асталася ў Беларусі.

У наступным нумары „Нівы” — размова з Ігарам Кузняцовым, якога лукашэнкаўскія службы бяспекі выклікалі на допыты пра яго даследаванні сталінскіх рэпрэсій у Беларусі.

PS. *Канкрэтныя даныя пра дэпартацыі і больш пра рэпрэсіі ў Беларусі, галоўным чынам у 1944-1952 гадах, якія прадставіў Ігар Кузняцоў у ходзе беластоцкай канферэнцыі, даступныя ў нашай рэдакцыі.*

**(М.Х.)**

## А так мела быць добра і весела

Калі закончылася Другая сусветная вайна, людзі нашай краіны ахвотна ўзяліся адбудоўваць айчыну. Усё ж тады было знішчана, разбіта. Засталіся самыя разваліны, тырчэлі адзінокія коміны — помнікі мінулай трагедыі, якая пракацілася праз нашу краіну. Па хатах засталіся сіроты і ўдавіцы, якім Гасподзь дазволіў пражыць. Аднак людзі не склалі рук. Панавалі тады лад і парадак, не было сварак, паклёпаў і непатрэбнай мітусні. Усе людзі былі патрэбнымі, лічылася іх праца. Паміж палітыкамі была еднасць у супольным кіраванні краінай. Хаця не ставала грошай, аднак ахвота да жыцця была. Праўду кажуць, што еднасць будуе... Вынікі адбудовы надышлі хутка. Усё навокал ажыло, раны зажываліся, свет станавіўся прыгажэйшым, уліваючы ахвоту для далейшага жыцця. І на вёску прыйшло новае. Пачалася электрыфікацыя. У вясковых хатах і на вуліцах засвяціліся электралямпачкі, стала відна, хоць іголкі збірай. Некаторыя гаварылі: «Калі б старэйшыя людзі паўставалі з магіл і пабачылі, як мы цяпер жывем, тады ад уражання зноў паўміралі б». А ў некаторых вёсках дык калгасы пачалі паўставаць, але яны ў нас не прыняліся і мала дзе засталіся да гэтай пары. І так па вёсках стала жыць лягчэй і весялей. Пайшлі праз вёскі аўтобусы, на чыгунцы пачалі паўставаць прыпынкі. Хочаш паехаць у горад, няма праблемы — усюды цябе давязуць. Людзі казалі: «Вось дачакаліся дабрабыту, толькі жыццё кароткае. На вёсцы добра жыць і ў горадзе някепска». Маладыя пайшлі вучыцца. Толькі, на жаль, пасля вучобы на вёску не вяртаюцца. Аднак усё добрае свой канец мае. А цяпер, калі Польшча далучылася да Еўрасаюза, нічога добрага для нас не відаць. Пагражае крызіс (а можа і мы яго адчуваем?), раптоўна ўсюды зноў не стае грошай. Прадпрыемствы, каб праіснаваць, увальняюць працаўнікоў, закрываюць вытворчыя цэхі. Закрываюцца школы па прычыне малой колькасці дзетак. А адкуль іх узяць, калі маладыя з'ехалі ў гарады, а па вёсках старыя засталіся дажываць. Буслы страйкуюць, дзяцей не носяць. Найлепш школы закрыць і наглядаць, як вёска адмірае. Чыгуначныя прыпынкі ліквідуюць. Яшчэ аўтобус праз вёску праімчыцца і то ўжо амаль пусты.

Усе наракаюць, што няма грошай. А дзе яны прапалі і то столькі гадоў пасля вайны? Да якой установы не заглянеш, усюды адна праблема нястачы грошай. Вулічныя лямпачкі замянілі энергазберагальнымі і неяк там на стаўбах свецяць вясковым놓 жыхарам з вечара да паловы адзінаццатай ночы. Не то што ў Чыжоўскай гміне, дзе вёска асвятляецца ўсю ноч. А ў нас, у Гайнаўскай гміне, за кароткі час зусім цемрадзь настане, бо... грошай няма. І то па ўсёй краіне іх не хапае.

А так мела быць прыгожа і весела. А атрымалася зусім наадварот.

**Грыша МАРОЗ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# з о р к а
для дзяцей і моладзі


# Юр'я і патрабавальныя бацькі!

Многія з нас як сонца выглядаюць свабодных ад навукі дзён. Што тут казаць — тыя кантрольныя і праверачныя экзамены наклікаюць вялікі стрэс. Але калі чагосьці не скончыш, добра не адпачнеш. Таму канец школьнага года заўсёды прыносіць радасць. Свядомасць, што ў нас закончаны яшчэ адзін этап, што надыходзіць час без напружанай натугі, абавязку, дзейнічае як бальзам. Проста хочацца жыць, дурэць, любіць усіх на свеце...

Так дзейнічае салодкі смак свабоды. Глыток добрай энергіі многім з нас падарыў апошні доўгі ўік-энд, які цягнуўся з 28 красавіка па 6 мая. Да падарожжаў заахвочвала цудоўнае надвор'е і прыклад іншых сяброў. Бо дзе не глянь, усе кудысьці з'язджалі...


Фота Ганны Кандрацюк

У беларусаў існуюць свае дарогі, па якіх ад стагоддзяў рухаюцца чарговыя пакаленні. Мова пра паслявелікодную традыцыю сустрэч на могілках. Людзі прыязджаюць цэлымі сем'ямі, часта з далёкіх старон, каб асвяціць магілы.

І вось у сярэдзіне доўгага ўік-энду на могілках у Ласінцы мы сустрэлі знаёмых дзяцей. Яны дапамагалі бацькам наводзіць парадкі. За тры дні выпадала тут прыхадское свята Юр'я.

— Мне аж не верыцца, што цяпер такія добрыя дзеці, — кажа бабуля Марыся. — Памылі помнікі, пакасілі траву, насадзілі кветак. А кажуць, што ў горадзе нічога рабіць не ўмеюць! Вось, паспрабуй загнаць да такой работы вясковых. Адразу спытаюць: за колькі?!



Фота Ганны Кандрацюк

6 мая на могільніку, здавалася, сабраўся цэлы свет. Паз'язджаліся людзі з Беластока, Гайнаўкі, Бельска ды далейшых гарадоў і мястэчак. Маладыя, традыцыйна, трымаліся разам. Яны шпацыравалі групкамі між магіламі і ларкамі з ласункамі і ўсякімі фінціклюшкамі з надзеяй, што тут, на бацькаўшчыне сваіх дзядоў, убачаць сяброў з канікул. Мяне ўзрушыла знаёмая група гімназістаў, якая каментавала апошнюю тэлепраграму „Патрабавальныя бацькі” (Surowi rodzice), якую дзень раней паказалі на TVN. У якасці патрабавальных герояў выступілі спадарства Людміла і Барыс Казлоўскія з аграгаспадаркі Бора-Здруй. Гэтыя людзі добра вядомыя чытачам „Зоркі”, бо ў іх пансіянаце ад гадоў праходзяць журналісцкія майстар-класы для сяброў нашай газеты. Сям'я Казлоўскіх часта выступала ў якасці герояў рэпартажаў, інтэрв'ю, фельетонаў. І дзіўна — ніхто іх не спалучаў з „жорсткай патрабавальнасцю”, наадварот, нашы гаспадары рабілі ўсё, каб стварыць добрыя ўмовы для працы і адпачынку.

Падслуханыя размовы выдатна паднялі мой настрой. Нягледзячы на тое, што моладзь амаль поўнасцю згубіла ўжо сваю мову, яна сустракаецца, так як іх прадзеды, у тым жа самым месцы і мае свае тэмы...

Праўда, на гэты выпадак найбольш зноў запрацавалі патрабавальныя бацькі, якія прывезлі з сабой дзяцей і заставілі іх папрацаваць на магілках. Усё гэта дзіўна і архаічна, аднак праўдзіва. І вельмі прыгожа.

ЗОРКА

# Конкурс пра вясну (20)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які духоўна-народны абрад у паслявелікодны перыяд практыкуюць сучасныя беларусы?**

а) памінальныя сустрэчы сем'яў на могілках (Провады, Радаўніца, сустрэчы ў час парафіяльных святаў, напрыклад, на Юр'я),

б) Гуканне вясны,

в) Куст.

**2. Хто з'яўляецца героямі апісаной намі тэлесерыі „Патрабавальныя бацькі”?**

а) спадарства Ганна і Яўген Крыніцкія з Чаромхі,

б) спадарства Яўгенія і Янка Мароз з Гайнаўкі,

в) спадарства Людміла і Барыс Казлоўскія з Бора-Здруй (Новае Ляўкова).

**3. Што абазначае назва моладзевага гурту „Жэўжыкі”?**

а) вясёлую кампанію дзяцей,

б) непаслухмяных хлапцоў,

в) найгоршых вучняў у класе.

**4. Як называюць восеньскую сустрэчу буслоў, ладжаную тыдзень-два да іх палёту ў вырай?**

а) буслінае вяселле,

б) бусліны сойм,

в) свята птушак.

Адказы дасылайце да 20 мая 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 17. Сярэдзінай мястэчка Нарва плыве рачулка Гніліца, побач Сасноўка і Нарва (а, б, в); да Балтыйскага мора можам даплысці Лясной, Нараўкай, Нурцом (а, б, в); портам горада Бельска ў XVI стагоддзі называлі мястэчка Нарву (в); горад Саколка узяў назву ад ракі Сакалды (в).** Узнагароды, кампакт-дыск з беларускімі казкамі і альбом-даведнік пра ландшафтныя паркі Падляшша выйграла **Уршуля Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Вершы Віктара Шведа

## Лагічная размова

З горада прыехаў Коля
У родную вёску.
Ён убачыў там у полі
Пустыя палоскі.

— А каб нешта тут пасеяць
У полі, каля дома?
— Каб пасеяць, ёсць надзея
Што вырасце, вядома.

## Допыт

Паліцыя ў Грэнландыі
Цікавіцца людскім лёсам,
Ваюе з рознымі бандамі,
Пытаецца эскімоса:

— Даведацца мы хочам
Ад нашага земляка,
Што рабіў ты ночу
Ад кастрычніка да сакавіка?

*(легенда польскіх мазураў)*

# Помста буслоў

Калі славяне думаюць пра буслоў, яны адначасова думаюць пра вясну, пра адраджэнне прыроды і ўдачы на працягу цэлага года. А вось у пачатку восені можна ў прыродзе прыкмеціць іншы цуд — бусліны сойм. Птушкі злятаюцца з цэлай акругі ў адно месца, каб абмеркаваць свой палёт у вырай. З'ява адбываецца ў палове жніўня, тыдзень-два да вялікага палёту. Дзеля свайго сойму буслы абіраюць адмысловы луг, або іржышча ад скошанага збожжа. Чалавек заўсёды ў задуменні назіраў бусліны сойм і думаў:

— Пра што яны гавораць?

Аднак людзі па-рознаму ўспрымалі гэтую з'яву.

Наша гісторыя здарылася чатырыста гадоў таму назад, дзесьці ў сэрцы Мазовіі. У гэты раз бусліны сойм сабраўся ў наваколлі іншага сойму. Як памятаеце, у даўнія часы паслы не жылі ў адмысловых гасцініцах і апартаментах. Яны арганізавалі свае „мястэчкі" на прыродзе, каб там свабодна, у раскошных палатках вырашаць справы дзяржавы і ўласныя інтарэсы. Іх перагаворы часта адбываліся за сталом і, бывала, канчаліся п'янкай і авантурай. У час адной бяседы падвыпіўшы шляхціц, убачыўшы паблізу палаткі сотні буслоў, выйшаў з напышлівай прапановай.

— Давайце сасмажым на вячэру некалькі буслікаў!

— Давайце! — падтрымала падвыпіўшая шляхта.

Падахвочаныя добрым заробкам служкі быццам чэрці кінуліся выконваць волю сваіх паноў. Яны налавілі дзесяткі буслоў, прывалаклі іх да вогнішча, абшмаравалі глінай і кінулі жыўцом у агонь...

Ніхто не звярнуў увагі на адчайны крык і плач птахаў. Наадварот, многія гурманы паўтаралі, што мяса зжаранае „са стрэсам", калі звер канае ў пакутах, плача, невыносна церпіць, будзе найлепшым рарытэтам.



Прырода ўмее адпомсціць чалавеку, асабліва, калі яго забойствы і здзекі атрымаліся з-за фанабэрыі і агрэсіўнай напышлівасці. І вось, у час калі служкі жорстка абыходзіліся з бусламі, над іх кастром проста з неба з'явілася хмара буслоў. Птушкі ўхапіліся кіпцюрамі за палаючыя галінкі і раскінулі іх спачатку на палатачнае „мястэчка" шляхты, а пасля на суседнія вёскі, адкуль выводзіліся служкі.

Пажар гарэў тры тыдні, пакуль не сатлелі датла ўсе чалавечыя сялібы, іх плёны і дабытак. Памяць пра здарэнне жыве ў буслінай грамадзе, якая па сённяшні дзень шырокім кругам аблятае гэтае няслаўнае месца. Адкуль гэта вядома? Пра гэта расказваюць старажылы, якія разумеюць мову птушак і ўмеюць адчытаць закадаваныя ў прыродзе знакі.

ЗОРКА



Зося Конюх і яе сяброўкі з ПШ н-р 4 у Беластоку

Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## Алe Хаменка!

Творчая сустрэча з Алегам Хаменкам заінсціравала мяне, каб коратка распавесці пра гэтага чалавека рэнесансу. Ён — з'ява ў беларускай культуры. Па-першае, Алег Хаменка — лідар гурту „Палац", заснаванага ў 1992 годзе. Можна палічыць, што самы яркі перыяд у жыцці гэтага чалавека пачаўся якраз з гэтага моманту. За ім ужо трыццаць гадоў сцэнічнага вопыту.







Нельга не ўспомніць пра вялікі вопыт Алега Хаменкі ў галіне паглыблення нашых ведаў па роднай культуры. Трэба яго прылічыць да кола такіх этнографаў як Юры Выдронак („Ur'ia") ці Іван Кірчук („Troica"), якія гадамі вядуць пошукі ў галіне народнай культуры беларусаў ды пераўтвараюць яе ў чарговую каштоўнасць — фолькмузыку. Алега Хаменку можна нават назваць наватарам у галіне фольку, бо „Палац" лічыцца заснавальнікам фольк-мадэрну ў Беларусі, калі не ў Еўропе.

Алег Хаменка гэта таксама журналіст. Вёў ён перадачу на беларускай радыёстанцыі Аўтарадыё, а на хвалях блізкага нам Радыё Рацыя стварае „Фолькбраму", вядзе „Радыё Тузін", у якім падводзяцца вынікі гіт-парада партала Тузін Гітоў. Мала, гэта далёка не ўсё чым займаецца Алег. Пару гадоў таму паспрабаваў сарганізаваць самы вялікі опэнэр пад назвай „Bela Music", але зараз задумы не працягвае. Затое Алег працуе ў журы фольк-фестывалю „Камяніца", які мае зусім іншы патэнцыял.

Алег Хаменка гэта таксама аніматар культуры, а яго дзейнасць праяўляецца ў музычных выданнях, напрыклад, так важных як казкі для дзяцей! За гэтай асобай стаіць шмат розных праектаў, таму калі прачытаеце ці пачуеце калі-небудзь прозвішча Алег Хаменка, хуценька праверце дзе, што, калі, бо сустрэча з ім гэта як сустрэча з жывой легендай.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16:**

Грош, асадка, шпак, пік, бас, лік, раса, пан, тур, талака, атаман. Гром, лата, шпінат, шапік, ла, сак, там, лак, рука, баран, квас, на, садок.

Узнагароды, кашулькі з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Адам Харкевіч, Адам Хлябіч, Уршуля Марчук, Кася Кічкайла** з Нараўкі, **Патрыцыя Міхальчук, Віялета Дработка, Караліна Кавэцкая, Магда Міхалевіч** з Бельска-Падляшскага, **Мая Мішчук, Марцін Аврчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wóz | Fundacja | | Za | | | | | Pająk | | | | |
| Noga | | | | | Niebo / Usta | | Marsz | | Elita / Sieni | | Ozon / Bierz | |
| | Bierz | | | Miss | | Masaż | | | | | | Wiosna |
| | | | Muchawiec | | | | | | | | | |
| | | Wół | | | | Ruń | | | | | | |
| | Piegi | | | | | | | | | As | | |
| Tło / Polak | | | | | | | | | Jał | | | |
| | | | | | Tęcza | | | | | | | |

Іаанна ЧАБАН

# Крынскія валакальнікі

**У суботу, 28 красавіка, у Крынскім доме культуры адбылося мерапрыемства „Ой, шлі валакальнікі — сустрэчы з беларускімі велікоднымі традыцыямі”. Мерапрыемства арганізавала Культурнае аб'яднанне „Тэрра Інкогніта” пры выдатнай дапамозе Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і дырэкцыі Крынскага дома культуры.**

Фота Альжбеты Чаромхі

*Дзеткі з крынскага гуртка беларускай мовы з настаўніцай Барбарай Сідаровіч*

*Анатоль Дарожка выканаў рэтра-гіты*

Фота Альжбеты Чаромхі

Сама ідэя арганізавання падобнага характару акцый зрадзілася з патрэбы зберажэння найвялікшых, традыцыйных каштоўнасцей Крынскай — каліcь у складзе Гродзенскай — зямлі. Такія словы як „валоканне” ці „місаед” вельмі экзатычныя і чужыя мясцоваму, маладому пакаленню. Гэтыя галоўныя вызначальнікі мясцовай тоеснасці адміраюць разам з адыходам старажылаў.

Яны — людзі адлеглай эпохі, з'яўляюцца галоўнымі героямі сустрэч,ладжаных аб'яднаннем „Тэрра Інкогніта”.

Аўдыёзапісы іхніх успамінаў назаўжды застануцца асноўным пацвярджэннем прысутнасці беларускай культуры на гэтай зямлі.

Менавіта з мультымедыйнай прэзентацыі пачалося валакальнае мерапрыемства. Велікодныя апаведы і аўтэнтычныя спевы з Крушынян, Азяран-Вялікіх, Вострава-Паўднёвага, Ляшчан і Крынак прагучалі на фоне старажытных фатаграфій, у асноўным крынскай сям'і Анісімовічаў. На базе матэрыялаў, сабраных таварыствам у час навуковых экспедыцый, паўстала таксама валакальная сцэнка. Дуэт „Зараніца” зацікавіў гледачоў велікоднымі рыфмаванкамі і песнямі з Крушынян, Азяран і Піражкоў. Многія падпявалі і дзякавалі гучнымі апладысментамі. Затым на сцэну ўвайшлі госці з замежжа — „Зарачанскія крынічкі”. Іхні кіраўнік Вера Кунцэвіч падкрэсліла супольнасць гісторыі і культуры Крынак і Гародні, даўнія міжлюдскія сувязі. Успомніла ўсім прысутным сваю бабулю, якая пехатою, басаног, штотыдня падавалася ў Крынкі на торг. Прадавала яна тут прынесеныя з сабою тавары дамовай вытворчасці, а за заробленыя грошы набывала прамысловае, гарадское дабро для гаспадаркі.

Не абышлося таксама без традыцыйнага падсумавання валокання. Калісь хлопцы-валакальнікі за заробленыя ў час абыходу хат грошы наймалі музыкантаў і вясковую хату ды запрашалі дзяўчат і два дні танцавалі і спявалі.

Крынскую велікодную сустрэчу ўдастоіў адзін з найбольш вядомых калісь мясцовых музыкантаў. Гаворка пра Анатоля Дарожку, васьмідзесяцісямігадовага ўраджэнца і жыхара Ласінян. Адбылася сапраўдная, вялікая прапрэм'ера — першае, публічнае выступленне выдатнага гарманіста Анатоля пасля шасцідзесяцігадовага перапынку. Раздаліся шлягеры з пачатку прошлага стагоддзя, між іншым, „лысы”, „падыспан”, „каробачка”, „яблачка”, славуты „Аляксандраўскі вальс”. Зараз знайшліся і танцоры. Дуэт „Зараніца” прэзентаваў публіцы танцавальныя крокі, якіх навучыўся ад старажылак Марыі Кулакоўскай і Зінаіды Лапінскай. Да рэчы, сама спадарыня Кулакоўская, якая прысутнічала на гэтай імпрэзе, не змагла стрымацца і вырвалася да танцаў, падпіраючыся двума кіёчкамі. На паркеце завіравалі пары адважнейшых прадстаўнікоў публікі. Са сваімі песнямі і танцамі далучыліся да іх таксама госці з Гародні. Усім вельмі спадабалася іхняя полька-трасуха. Бісам і супольным трансгранічным спевам не было канца.

На завяршэнне ўсе сабраныя частаваліся традыцыйнымі салодкімі, дамашнімі пірагамі, яйкамі з цыбульніка, смачным гарадзенскім хлебам і бальзамам.

У зале Крынскага дома культуры амаль усе сядзячыя месцы былі заняты, але намнога больш народу магло там яшчэ памясціцца. Людзі, якім не абыякавы лёс нашай культурнай спадчыны, не падвялі. Вострaўская група падтрымкі ў асобе матушкі Людмілы і некаторых яе прыхаджан прыбыла туды пешшу. Вялікае ім за гэта дзякуй!

*Хто быў, сваю душу развесяліў!*
*Хто не быў, той многа прапусціў!*

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Што зможа музыка?

Чарговы — шосты — канцэрт „Салідарныя з Беларуссю” прайшоў у Варшаве. На ПарадНай плошчы ўжо на некалькі гадзін да пачатку мерапрыемства збіраліся людзі. Моладзь з Ініцыятывы „Свабодная Беларусь” з бел-чырвона-белымі сцягамі заахвочвала прыняць удзел у канцэрце ўсіх, каго ў гэтую пару можна было сустрэць непадалёк Палаца культуры. Гэта напэўна прыцягнула гледачоў, якіх ужо ў 19 гадзін на плошчы было шмат. Між іншым быў Роберт Ляшчынскі, вядомы польскі музычны крытык, які ў мінулых гадах вёў канцэрт.

— Я лічу сябе аўтарам гэтай падзеі. Не было мяне толькі адзін раз на канцэрце „Салідарных з Беларуссю” ў 2010 годзе, калі мела месца нацыянальная жалоба. Паводле мяне, беларускія гурты лепшыя, чым польскія. Не адзін раз я ўжо ўспамінаў, што нашая музыка мёртвая, а ў беларускай ідзе пра барацьбу, ідэю!

Такім фанатам беларускай музыкі як Роберт Ляшчынскі зайгралі гурты „Рэха”, „ВЗ-аркестр” Зміцера Вайцюшкевіча ды „Vincent”, з польскіх — „Пауля і Кароль”, „Вавамўфін”, „Малео рэгі рокерс”, „Габакук” і „Р.У.Т.А.”.

Канцэрт пачаўся выступам гурту „Малео рэгі рокерс”, які ўдзельнічае ў фестывалі ад пачатку яго існавання. Дар'юш Маляёнак — вакаліст гурту адзначыў, што немагчыма не дапамагчы, калі за мяжою дзеецца штораз горш.

Падобныя ўражанні мае Паблапава з гурту „Вавамўфін”, які ўжо ў 2006 годзе разам з Каяй спявалі аўтарскую песню са словамі: „Łuka, wolność do ciebie puka, uważaj bo Pan na ciebie codzień tutaj luka!”.

— Я маю тут, у Варшаве, шмат сяброў, якія цікавяцца беларускай справай. Таксама ведаю асобы з Беларусі, якія не могуць вярнуцца на бацькаўшчыну. Ведаю, які гэта канцэрт. Ведаю, дзе і чаму сёння граю, — сказаў Паблапава.

Увесь час у натоўпе людзей можна было сустрэць добраахвотнікаў з Ініцыятывы „Свабодная Беларусь”. Іх задачай было сабраць як мага больш подпісаў пад петыцыяй у справе адной палітыкі ў дачыненні да Беларусі з боку ўсіх краін Еўрапейскага саюза.

Выдатным госцем быў першы прэм'ер свабоднай Польшчы Тадэвуш Мазавецкі. Яму гледачы, якія шчыльна запоўнілі плошчу, праспявалі „Sto lat” з нагоды дня нараджэння, які нядаўна святкаваў.

— Не забывайце нашых братоў з Беларусі! Мы ведаем, што значыць дыктатура і ведаем, што значыць свабода, таму беларуская апазіцыя, дэмакраты з Беларусі павінны аб'яднаць народ і бязлітасна змагацца за свабоду, таму што свабода — рана ці позна — прыйдзе!

Сваю салідарнасць з беларусамі выказаў таксама былы старшыня Еўрапейскага парламента Ежы Бузэк. Іх змаганне параўнаў да свайго з перыяду да 1989 года, калі Польшча мела падобныя праблемы з аўтарытарнай уладай. Ежы Бузэк падкрэсліў, што Польшча мае доўг з боку Заходняй Еўропы, з якога мусіць адкупіцца, дапамагаючы Беларусі.

На сцэне паявілася таксама дачка беларускага апазіцыянера Зміцера Бандарэнкі, Юля. Усе маглі даведацца пра яе асабістую трагедыю, звязаную з арыштам бацькі. Юлі таксама пагражала небяспека, таму яна мусіла збегчы ў Польшчу. Хаця Зміцер Бандарэнка вызвалены, Юля адзначыла, што ён увесь час з'яўляецца вязнем Лукашэнкі.

Ад шасці гадоў Ініцыятыва „Свабодная Беларусь” арганізуе канцэрт „Салідарныя з Беларуссю”. Заўсёды паяўляюцца каментарыі адносна сэнсу яго ладжання. Найбольш злаславыя ўпэўненыя ў тым, што ён непатрэбны, таму што нельга ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі. Аднак не кожны абыякава ставіцца да рэжыму Лукашэнкі. Паблапава з гурту „Вавамўфін” прызнаўся, што верыць у сілу „Салідарных”:

— Не кажу, што наш гурт даб'ецца свабоды на Беларусі. Словы адной нашай песні гавораць пра тое, што музыка свету не зменіць, але можа яго ў нейкай ступені палепшыць.

„Кожны можа быць салідарным”, — заклікае Ініцыятыва „Свабодная Беларусь”. Увесь час можна падпісаць петыцыю „Build democracy, not regime” на фэйсбуку: fb.com/build.democracy, або знайсці петыцыю на сайце build-democracy.org

Аляксей МАРОЗ

У Музеі ў Бельску-Падляшскім, філіяле Падляшскага музея ў Беластоку, які знаходзіцца ў бельскай ратушы, можна было ўбачыць жывапіс і графіку беларускіх мастакоў, пражываючых у Польшчы. Іх выбраныя працы састаўляюць калекцыю, якая прэзентавалася і будзе яшчэ паказвацца ў бельскім музеі. Апошнімі гадамі працаўнікі музея разам з людзьмі, зацікаўленымі нашай традыцыяй, многа сіл уклалі ў збіранне, апісванне і каталагізацыю абрадавых ручнікоў з Бельскага і Гайнаўскага паветаў.

# Традыцыя і сучаснасць у бельскім музеі


Удзельнікі керамічнага майстар-класа з Валерым Марчуком (у цэнтры)

фота Аляксея МАРОЗА

З іх састаўлена займальная экспазіцыя „Таямнічы ручнік", якая зараз прэзентуецца ў выставачнай зале Музея ў Бельску-Падляшскім. Кіраўнік музея Аліна Дэмбоўская вялікую ўвагу адводзіць адукацыі мясцовага насельніцтва. Пры нагодзе выставак у музеі ладзяцца адукацыйныя сустрэчы і майстар-класы, найчасцей для вучняў з Бельска-Падляшскага і наваколля.

У музеі меў я нагоду паразмаўляць з удзельнікамі керамічнага майстар-класа, што арганізаваўся ў рамках праекта „Неса z pieca". Вучні бельскіх школ і Комплексу школ у Ягуштове выконвалі дэкаратыўныя прадметы — збаночкі для кветак, свістулькі, невялікія гаршчочкі, анёлкі, драконччыкі. Заняткі вяліся з верасня мінулага года і маюць закончыцца ў чэрвені гэтага года, між іншым, выстаўкай прац маладых аматараў керамічнага рукадзелля і запрэзентаваннем табліц са здымкамі керамічных работ.

— У час заняткаў я вучу працаваць з глінай і выконваць цікавыя дэкаратыўныя прадметы. Стараюся, каб заняткі былі цікавымі і каб вучні разгортвалі свае мануальныя ўмеласці. Аднак самае галоўнае — выпрацоўка ў маладых людзей цярплівасці і канцэнтрацыі ўвагі на канкрэтнай працы. У час керамічнага майстар-класа моладзь углыбляецца ў сябе і фарміруе свой характар, паглыбляе свае веды пра керамічнае мастацтва, вучыцца фармаваць канкрэтныя кампазіцыі, — сказаў выкладчык народных рамёстваў Валеры Марчук з кафедры тэорыі і методыкі эстэтычнага выхавання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. — Пасля выканання прадметаў з гліны мы іх выпальваем у спецыяльнай электрычнай печцы і частку з іх глазуруем. У дэкаратыўных прадметах самыя важныя эстэтычныя вартасці, іх выгляд і выяўленне задумы чалавека, які іх выконвае.

Сярод удзельнікаў майстар-класа, які наладзіў бельскі музей у супрацоўніцтве з Мясцовым фондам у карысць грамадскага развіцця з Відава, ёсць бельскія белліцэісты і белгімназісты з „тройкі".

— Заняткі вельмі цікавыя і я многаму тут навучылася. Добра працаваць у дружнай грамадзе і спрыяльнай атмасферы, — заявіла бельская белгімназістка Юлія Уршуля Скепка.

— Мы тут міла праводзім час, маем магчымасць даведацца цікаваму і атмасфера тут сяброўская. Файна, што можам рабіць з гліны цікавыя дэкаратыўныя прадметы. Маем тут магчымасць разгарнуць свае мануальныя ўмеласці і мануальную крэатыўнасць. Аднак выконванне керамічных прадметаў цікавае само па сабе. Апрача заняткаў з Валерым Марчуком мы вучыліся выконваць прадметы з гліны на ганчарскім коле і займаліся таксама на іншых занятках. Мы тут пазнаёміліся і добра адчуваем сябе, працуючы ў групе, — расказвалі бельскія белліцэісты Малгажата Сушч і Патрык Пятроўскі.

— Я ў час канікулаў хачу працаваць з дзяцьмі валанцёрам і ўмеласці, якія я тут здабыў, мне прыдадуцца, — дабавіў Патрык Пятроўскі.

— А я збіраюся паступаць у Мастацкі ліцэй у Супраслі і таму заняткі з мастацкім ухілам мне цікавыя, — заявіла Малгажата Мортэль з Гімназіі № 2 у Бельску.

Апрача Валеры Марчука керамічныя заняткі вялі інструктары мастацтва Лілія Вышкоўская з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, Марыя Бабулевіч з Бельскага дома культуры, а заняткі па класічным ганчарстве вёў Павел Парадовіч з Беластока.

— У час рэалізацыі нашага праекта мы хацелі, каб нашыя вучні сталі больш упэўненымі асобамі, навучыліся адкрывацца на іншых і працаваць у групе, а таксама каб сталі больш


Кіраўнік бельскага музея Аліна Дэмбоўская з абрадавым ручніком

моцнымі асобамі. Гэтым прыкметам маглі вучыцца ў час псіхалагічных заняткаў, якія вяла Уршуля Плонская з Беластока. З нашымі вучнямі займаліся таксама гісторык мастацтва, этнограф, археолаг, а іх аповеды датычылі керамікі, — гаварыла кіраўнік музея Аліна Дэмбоўская.

Арганізатары праекта хочуць паказваць табліцы са здымкамі і вопісамі керамічных вырабаў, якія выканалі ўдзельнікі майстар-класа. Табліцы будуць размешчаны ў розных месцах, між іншым, на платах школ, вучні якіх прымаюць удзел у занятках, і на платах у Ягуштове і Галадах, дзе жывуць удзельнікі праекта.

— Важна, каб паказаць вартасць працы мададых людзей у іх школах і вёсках. Вяскоўцам складана было б прыехаць у музей, а так цікава будзе ім паглядзець на працы, змешчаныя на платах. Так мы рабілі з табліцамі, на якіх прэзентаваліся абрадавыя ручнікі, сабраныя ў выніку праекта „Абрадавы ручнік". На табліцах паказалі мы мастацкія працы вучняў, выкананыя ў рамках праекта „Мастацтва на вясковым панадворку". Пакажам рэзультаты нашай работы з сямейных майстар-класаў вонкі музея, каб як найбольш людзей зацікавілася нашай работай, — сказала Аліна Дэмбоўская. — У нашым музеі паказваліся працы беларускіх мастакоў з Польшчы — графіка Малгажаты Дзмітрук, бацік Іаланты Кабзар, жывапіс Міраслава Здрайкоўскага, Ягора Хлябіча, Пётра Гагана, Віктара Кабаца, Анатоля Краўчука, Міколы Давідзюка і Тамаша Адзяевіча.

Некаторыя мастакі дарылі свае працы бельскаму музею, некаторыя карціны музей ад іх купіў. Выстаўка жывапісу і графікі беларускіх мастакоў паказвалася пры нагодзе з'езду выпускнікоў Бельскага белліцэя. Будзе яна паказвацца таксама ў будучыні. Зараз у бельскім музеі працуе цікавая выстаўка „Таямнічы ручнік". Абрадавыя ручнікі, сабраныя ў Бельскім і Гайнаўскім паветах, можна паглядзець на трохмоўным (польская, беларуская і англійская мовы) сайце **www.bielskirecznik.pl.** На ім знаходзіцца рэгіянальная база дадзеных наконт народных ручнікоў.

— Сайт паўстаў у рамках праекта „Абрадавы ручнік", які наш музей рэалізаваў у супрацоўніцтве з Мясцовым фондам у карысць грамадскага развіцця з Відава. Мы сфатаграфавалі, зрабілі інвентарызацыю і апісалі звыш 500 ручнікоў. На сайце паказваем каля 60 узораў ручнікоў, з якіх можна бясплатна рабіць копіі, а пасля на падставе іх выканаць гафты і карункі для ручнікоў на вяселле ці іншыя ўрачыстасці, — гаварыла кіраўнік Аліна Дэмбоўская. — Цешыць нас, што, напрыклад, у царкве ў Чыжах і ў некаторых іншых царквах упрыгожваюць іконы ручнікамі з мясцовымі ўзорамі. Мы маем намер працягваць каталагізацыю ручнікоў і дзеля гэтага прадбачваем у бліжэйшым часе супрацоўнічаць з войтамі і самаўрадамі з Чыжоў і Чаромхі.

У рамках праекта „Абрадавы ручнік" ладзіліся таксама майстар-класы рукадзелля. Сфатаграфаваныя і апісаныя ручнікі аддаваліся іх уласнікам. Некаторыя ручнікі людзі падорылі музею або музей іх купіў. Выстаўка табліц з абрадавымі ручнікамі зараз знаходзіцца ў Ляўкове. Прадбачваецца паказаць табліцы ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах, з якім ратушны музей цесна супрацоўнічае. Бельскі музей супрацоўнічае з музеямі ў Беларусі. У кастрычніку гэтага года бельскі музей прадбачвае наладзіць музейныя майстар-класы з удзелам музеязнаўцаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.

Фота і тэкст Ганны **КАНДРАЦЮК**

# Міцкевіч пранікнёна ведаў беларускія абрады

Пра творы Адама Міцкевіча, здавалася б, даўно ўсё сказана і даказана. Паэт, які займеў славу нацыянальнага прарока, як ніхто патлумачаны і асветлены атрадам даследчыкаў-міцкевічолагаў. Таму ўражвае наватарскі і дапаўняльны характар кніжкі доктар Гражыны Харытанюк-Міхей з кафедры беларускай культуры ў Беластоку пад загалоўкам: „Obrzęd dziadów w dokumentach i w cyklu Mickiewicza"* (Абрад дзядоў ў дакументах і ў цыкле Міцкевіча). Аказваецца, ніхто з даследчыкаў да гэтай пары не даказаў, на якой аснове Адам Міцкевіч стварыў арцыдраму „Дзяды". Станіслаў Пігонь, адзін з самых вядомых польскіх міцкевічолагаў, меркаваў, што ў аснову „Дзядоў" зафіксаваў ён беларускі абрад Радаўніцы. У гэтым меркаванні меў пераканаць прафесара „грамадскі" характар вясновага абраду. Сам даследчык не сутыкнуўся з абрадам і лічыў яго ўжо прызабытым ужо ў часы Міцкевіча.

Прафесар Алімпія Свяневічова, якая ў сваю чаргу ведала дзяды з асабістага назірання (нарадзілася ў маёнтку Вязынка каля Мінска) даказвала, што Міцкевіч паслужыўся не вясновым, а асеннім цыклам абраду. На гэта паказвала змрочная і напаўсакрэтная атмасфера характэрная драме. Даследчыца прыводзіла выказванні жыхароў вёскі Сяледчыкі, якія ў часы яе дзяцінства ладзілі памінальныя святы. Іх расказы спісаны ў арыгінале і перакладзены на польскую мову.



Злева: прафесар Марыя Нагенць-Свяневічова і доктар Гражына Харытанюк-Міхей




Пытанне канчаткова асвятліла доктар Гражына Харытанюк-Міхей, якая сама даследавала абрад у Беларусі і на Падляшшы. Яе праца грунтавалася на апытальніку, складзеным беларускім этнографам Марыянам Пецюкевічам, ды цягнулася аж восем гадоў. Аказваецца, абрад дзядоў па сённяшні дзень жывы і працвітаючы ў айчыне Міцкевіча. Паколькі ў часы Міцкевіча абрад дзяды спраўлялі адно жыхары ўніяцкай вёскі, то зараз ён стаў міжканфесійным і перайшоў з вёсак у гарады (у тым ліку і ў сталіцу). Мінскія дзяды сталі сімвалам незалежнай Беларусі. Даследчыца паказвае паўсюднасць і ўздзеянне дзядоў, як абрад дэтэрмінуе думкі і паводзіны звычайнага беларуса. Памяці продкаў адведзены шмат свят і дзён, якія ў народзе маюць свае назвы (Масленічныя дзяды, Троіцкія дзяды, Дзмітрыеўскія дзяды, Свята памерлых, Вадзяная куцця). Найбольш важныя і распаўсюджаныя восеньскія дзяды перад *Пілілаўкай*. Яны не прыпісаны канкрэтнай даце, хаця афіцыйна іх адзначаюць 2 лістапада. Абрад памінання продкаў пазначаны таксама ў царкоўным календары як *Радзіцельскія суботы*...

Даследчыца з кафедры беларускай культуры прыводзіць таксама голас беларускага міцкевічолага Станіслава Станкевіча, які — як і Алімпія Свяневічова — за аснову драмы Міцкевіча лічыць восеньскія дзяды. Беларускі кантэкст дысертацыі паказвае роднасць сюжэтаў у творчасці польскага вешчуна і ў духоўна-народным жыцці беларусаў. Кніжка можа паўплываць, а нават памяняць погляды звычайнага паланіста, які па прынятай звычцы хутчэй стане шукаць каранёў паэта ў незразумелай славянам Літве.

Доктар Гражына Харытанюк-Міхей — асоба вядомая ў сваім асяроддзі найперш з-за вялікай сціпласці і тактоўнасці. Вось і ў дзень прэзентацыі яе кніжкі ганаровым госцем была прафесар Марыя Нагенць-Свяневічова, дачка Алімпіі. Яна распавяла прысутным псіхалагічна-сацыяльны партрэт сваёй маці, а таксама ўплыў паўстання 1863 года на лёсы іх сям'і. Як не цікава, прадзед госці быў уласнікам маёнтка Вязынка, які арандаваў бацька Купалы і дзе ў 1882 годзе нарадзіўся беларускі пясняр.

Мерапрыемства, што адзначылі з захапленнем многія слухачы, было папоўненае фотапрэзентацыяй з этнаграфічных экспедыцый Гражыны Харытанюк-Міхей. Цікава, што сярод страў, прынесімых жывымі на магілу продкаў, на першым месцы заўсёды выступае чарка, напоўненая гарэлкай або віном...

Прэзентацыя кніжкі адбылася 19 красавіка г.г., выпадкова ў паслявелікодны чацвер, які на Палессі завуць Наўскім чацвяргом. У гэты дзень памінаюць памерлых дзяцей...

*Grażyna Charytoniuk-Michiej, *Obrzęd dziadów w dokumentach i w cyklu Mickiewicza*, Sławistyczny Ośrodek Wydawniczy, Warszawa 2011, ss. 298 + VIII.

---

## http://tbm-mova.by

У некаторых беларускіх грамадскіх арганізацыях чамусьці лічаць за неабходнасць час ад часу змяняць не толькі выгляд свайго віртуальнага твару, але і яго адрас. Калі да першага можна паставіцца з разуменнем — арганізацыя шукае сваё найлепшае адлюстраванне ў сусветным Сеціве, то другое выклікае сумненні ў сур'ёзным падыходзе такой арганізацыі да сваёй пазнавальнасці ў інтэрнэце.

Некаторы час таму, а менавіта 5 жніўня 2007 года, „Ніва" ўжо пісала аб сайце Таварыства беларускай мовы (ТБМ). Акурат тады арганізацыя змяніла і выгляд свайго сайта, і яго адрас у інтэрнэце. Новы на той час партал ТБМ заслугоўваў толькі добрых слоў і пахвалы. Але не паспела мінуць і пяці гадоў, як арганізацыя зноў усё змяняе. Чым гэта выклікана, зразумець цяжка, а ўладальнікі сайта не лічаць неабходным тое тлумачыць. Яны толькі ставяць інтэрнэт-карыстальнікаў перад фактам, што цяпер ТБМаўскі сайт месціцца ў Сусветным павуцінні па адрасе **http://tbm-mova.by.**

Шчыра кажучы, дрэнных слоў на даны адрас дасылаць не пасуе. Яго выгляд у параўнанні з папярэдняй, дарэчы, яшчэ дзеючай версіяй, значна палепшаны, таксама стаў больш поўным і змест рубрык. Акрамя таго, новы рэсурс рупліўцаў на ніве адраджэння беларускай мовы насычаны разнастайнымі аздабленнямі — там шмат фотаздымкаў, малюнкаў, нават змешчаны адзін нумар ТБМаўскай газеты „Наша слова" ў фармаце pdf.

Увогуле будова сайта даволі цікавая. На галоўнай старонцы нам бачныя выйсці толькі на чатыры рубрыкі. Калі ж націснуць на кожную з іх, то перад намі адкрыюцца некалькі падрубрык. Так, першая рубрыка „Арганізацыя" змяшчае расповед пра ТБМ, праграмныя дакументы арганізацыі, падае статыстычныя даныя аб яе дзейнасці. Але найбольш важнай падрубрыкай тут з'яўляецца „Бацькоўскі камітэт". Там месцяцца даныя аб беларускамоўных школах, класах і садках, якія існуюць у Беларусі. Гледзячы на той спіс можна лёгка ўявіць наколькі занядбаны сённяшні стан беларускай мовы як у беларускім грамадстве, так і ў беларускай адукацыі.

Старонка „Дзейнасць" змяшчае, сярод іншага, такія неабходныя ў адлюстраванні працы кожнай грамадскай арганізацыі падрубрыкі як „Навіны", „Падзеі", „Фотагалерэя". У даных падрубрыках заўважаецца сур'ёзная хіба — нягледзячы на тое, што ТБМ існуе ўжо больш за 20 гадоў, бо было заснавана ў 1989 годзе, ніякіх архіваў мы там не знойдзем.

Разам з тым цікавым для азнаямлення з мінулай дзейнасцю і поглядамі, якіх дагэтуль прытрымліваецца арганізацыя, з'яўляецца дакумент, што змешчаны ў падрубрыцы „Стратэгія развіцця мовы". Пры мностве слушных момантаў, якія месціць „Стратэгія", яе аўтары, на жаль, прытрымліваюцца рэальнасцей 13-гадовай даўніны. Так, прыводзяцца дадзеныя перапісу насельніцтва Беларусі 1999 года, адпаведна якому „74% (амаль тры чвэрці) грамадзян Беларусі прызналі беларускую мову сваёй роднай, і ў гэтым мы бачым вялікі патэнцыял для яе будучага развіцця". Згодна апошняму перапісу 2009 года, тых, хто прызнае беларускай мовай родную ў Беларусі, крыху больш за палову. Можа, не толькі там трэба шукаць „вялікі патэнцыял для яе будучага развіцця"?

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

# Скарбы Беларусі

**Лідская шляхта**

Зазірнуў я неяк у адзін з хатніх фотаальбомаў і ўгледзеў там здымак дзесяцігадовай даўніны. Ля лідскага помніка Францішку Скарыну група ўдзельнікаў навукова-краязнаўчай канферэнцыі. З горкай прыкрасцю заўважыў, што з васьмі асоб на здымку трох ужо няма сярод нас: гісторыка-архівіста Віталя Скалабана, смаргонскага краязнаўца Віктара Шоця, сціплага школьнага настаўніка Віктара Ненартовіча, майго аднакурсніка. Як хутка сыходзяць у іншы свет нашы аднадумцы...

Лідчына заўсёды была надзвычай прыцягальнай для гісторыкаў і краязнаўцаў, нездарма на той згаданай канферэнцыі сабралася так шмат удзельнікаў. Было мноства планаў, ідэй, памкненняў. З таго часу ў Прынямонні ўцякло шмат вады, нешта ўдалося зрабіць, нешта згубілася і забылася. Прайшлі чарговыя „эпахальныя" дажынкі, якія істотна змянілі аблічча Ліды. Але, думаецца, сутнасць гэтага горада, які прэтэндуе на славу „мясцовага Полацка", не змянілася. Лідчына — гэта рэгіён асаблівай ментальнасці, асаблівага гонару і лакальнага патрыятызму. Некалі гэта быў Віленскі край і яшчэ ў маім дзяцінстве людзі старэйшага веку расказвалі як яны хадзілі пешшу ў тагачасную сталіцу. Цяпер Лідскі раён адміністрацыйна прыналежыць да Гарадзеншчыны, але з той жа Ліды людзі больш цягнуцца ў сталічны Мінск, дзе большыя магчымасці. А ўвогуле лідскія людзі, як той казаў, самі сабе шляхта. Дарэчы, што датычыць старадаўняй шляхты, то тут варта прыгадаць, што ў час „патопу" каля мястэчка Бяліца апалчэнне Лідскага павета дало сапраўдны бой 30-тысячнаму маскоўскаму войску. У гонар той бітвы 1659 года ў верасні 2002 года грамадскасцю ў ваколіцах Бяліцы быў пастаўлены і асвечаны вялікі крыж і адпаведная мемарыяльная пліта. Аднак неўзабаве гэты помнік быў знішчаны ўладай, якая панічна баіцца гістарычнай праўды. У Другую сусветную вайну на Лідчыне была вельмі актыўнай Беларуская самапомач — яшчэ адна старонка, якая замоўчваецца альбо вульгарызуецца афіцыйнай ідэалогіяй.

Галоўнай гістарычнай візітоўкай самой Ліды з'яўляецца старажытны замак. Ён забудоўваўся ў нізіне ля балоцістых рэчак Лідзея і Каменка па даручэнні самога вялікага князя Гедыміна і ўваходзіў у лінію супрацькрыжацкай абароны. Замак неадназова цярпеў ад нападаў разнастайных нападнікаў: французскіх і ангельскіх рыцараў, атрадаў смаленскага князя Юрыя Святаславіча, войска князя Свідрыгайлы, загонаў крымскіх татар, маскоўскай акупацыі, шведскага нашэсця ў час Паўночнай вайны. Апошняя бітва тут адбылася ў час вызвольнага паўстання Касцюшкі 1794 года. Пасля гэтага замак доўга стаяў у руінах і разбураўся, а адбудову ён зазнаў толькі ў наш час. Праўда горарэстаўратары нечага не ўлічылі і адна са сцен неўзабаве часткова абрынулася. Памылка была выпраўлена і зараз замак прымае наведнікаў. А сама Ліда — адзін з цэнтраў беларускіх рыцарскіх клубаў.

Нягледзячы на страшныя разбурэнні ў час апошняй вайны, у Лідзе ацалелі яшчэ дзве архітэктурныя перліны. Гэта Крыжаўзвіжанскі (Фарны) касцёл, што побач з замкам. Ён на месцы першага каталіцкага храма ў горадзе, а створаны паводле праекта славутага архітэктара Іагана Крыштофа Глаўбіца. Іншы вялікі храм — былы касцёл піяраў, якому спрыяў расійскі імператар Павел І, які прыязджаў сюды і начаваў з сынамі ў калегіуме. Кляштар быў зачынены ў 1832 годзе, касцёл гарэў. А потым быў перароблены ў праваслаўны храм. Пры саветах тут быў атэістычны планетарый, а з сярэдзіны 1990-х — гэта гарадскі праваслаўны сабор.

А яшчэ „лідская шляхта" дамагаецца ўсталявання ў горадзе помніка Гедыміну...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# І ў Палічнай жывуць людзі...(ч.ІІ)

А публікі ў суботу, 28 красавіка ў вясковай святліцы прыбывала. Мне кампанію састаўлялі дзве пажылыя бабулькі. Нечакана адна з іх, спаглядаючы з боку заявіла:

— Ці вы не ездзілі з кінаперасоўкай? Я працавала ў Грамадскай бібліятэцы.

І я пачаў пазнаваць Любу Швед з Новага Беразова.

— Да 1960 года, — гаварыла субяседніца, — я працавала бібліятэкаркай у сваёй вёсцы. Пасля перасялілася ў Палічну. Тут выйшла замуж і абзавялася сям'ёю. Зараз маё прозвішча па мужу Баравік.

Гэта ж было паўстагоддзя таму, калі палічанскія пажарнікі будавалі пажарнае дэпо і святліцу. Гісторыя...

У зале, пры ўваходных дзвярах прыкмеціў я групу незнаёмцаў. Неўзабаве высветлілася, што гэта студэнты са Шчэціна.

— Наша група лічыць чатырнаццаць асоб, — сказаў сімпатычны пад вусікам з бародкай маладзён. — Усе з'яўляюцца студэнтамі ІІ курса кафедры культурнай антрапалогіі Шчэцінскага ўніверсітэта, якая займаецца вывучэннем функцыянавання нацыянальных груп, у гэтым ліку мовы і культуры. Нашай апякункай і выхавацелькай з'яўляецца доктар Вераніка Бяляева. Пачаткова мелі мы



Радная Аліна Зазулінска (злева) і солтыс Альжбета Каравай уручаюць падарунак дырэктару Тамашу Ціханюку

ехаць у раён Сейнаў, але апякунка рэкамендавала падацца ў Белавежскую пушчу. Пабывалі мы ўжо ў Белавежы, у сяле Буды. Калі спыніліся ў Гайнаўцы і наведалі Музей беларускай культуры, рэкамендавалі паехаць у Палічну на фэст.

— Ды якія ж вашы ўражанні?

— Многа ў нас цікавых назіранняў. Тычыцца гэта мовы, побыту людзей. Прытым цікавая культура...

— А як сённяшняя імпрэза?

— Ладна... Нічога не скажаш...

У канцы суразмоўца пацікавіўся, каго я прэзентую. А калі прад'явіў яму службовы білет, доўга разбіраўся з прачытаннем слова „НІВА".

Гурт „Арт-Пронар" сышоў са сцэны. Радная Аліна Зазулінская і солтыс Альжбета Каравай папрасілі да сябе дырэктара Музея. Выказваючы падзяку за сарганізаванне фэсту, уручылі яму пакет з падарункам. Да мясцовых суарганізатарак далучылася бурмістр Ірэна Негярэвіч. Затым усе разам запрасілі публіку на забаву, а гасцей — на пачастунак. Выканаўцы і запрошаныя госці ў сардэчнай і сяброўскай атмасферы сустрэліся пры супольным застоллі, а вясковая моладзь вясёла гуляла ў суседняй зале пад гукі музыкантаў з Тапаркоў. Я пакідаў вясёлую кампанію ў поўным разгары каля 22 гадзіны. Кляшчэлеўскія сябры з ГАК падкінулі мяне дахаты. Беларускі фэст з цыкла „І там жывуць людзі" ў Палічнай, на маю думку, быў удалай імпрэзай. І за гэта арганізатарам належыцца падзяка.

# Дзень кніжкі

23 красавіка з нагоды Дня кніжкі тэлебачанне паінфармала аб выніках апытання на тэму чытальніцтва. Аказваецца, што ў 2011 годзе 58% грамадзян не прачытала аніводнай кніжкі.

На маю думку, гэтае апытанне — хлусня, бо ніхто мяне, ані маю жонку не апытваў наконт колькасці прачытаных кніжак. А я ж прачытаў 8 кніжак, некаторыя перачытваў па два і тры разы. А мая жонка прачытала 6 кніжак.

Калі гаварыць пра вёску, то цяпер яе жыхары маюць складаны доступ да кніжкі. Пры Польскай Народнай Рэспубліцы быў у мяне пункт абмену кніжкамі. У хаце стаяла шафа з кніжкамі, якія я пазычаў аднавяскоўцам. Такія бібліятэчныя пункты былі амаль у кожнай вёсцы Нарваўскай гміны. Я раз у месяц быў абавязаны абмяняць кніжкі ў бібліятэцы ў Трасцяны на новыя. За гэта гміна плаціла мне 4 злоты ў месяц. Тады 0,5 літра піва каштавала ў краме 2,20 зл. Значыць, за месячны бібліятэкарскі заробак не мог я купіць нават літра піва. Калі мы пачалі патрабаваць павысіць нам плату, праўленне гміны ліквідавала пункты абмену, патлумачыўшы гэта нястачай грошай.

Цяпер, пры рыначнай эканоміцы, абмежавалі курсіраванне аўтобусаў ПКС. Даехаць у бібліятэку ў Трасцянцы можна толькі ў дні школьнай навукі. А калі дабярэшся ў Трасцянку, то невядома ці бібліятэка акурат працуе, а потым трэба цэлы дзень чакаць, каб вярнуцца ў Бялкі. Цяжка дабрацца ў бібліятэку ўсім жыхарам вёсак, праз якія не ездзяць аўтобусы.

У мяне стаяць дзве шафкі з-пад кніжак. Адна запоўнена пераважна кніжкамі, якія я атрымаў у якасці ўзнагарод ад рэдакцыі «Нівы». Калі хто хоча, магу іх пазычыць прачытаць.

## Кажуць што...

Улады Заблудаўскай гміны паставілі ліфт пры будынку мясцовай амбулаторыі, узведзенай у 1978 годзе. Цяпер у ёй змяшчаюцца лекарскі і стаматалагічны кабінеты, пункт хуткай дапамогі, салон прыгажосці, вадзіцельскія курсы, а ў падвале — рэабілітацыйныя кабінеты і аптэка. Ліфт меў служыць людзям, якім цяжка спускацца па сходах на рэабілітацыю.

Аднак ліфт заўсёды зачынены і ніхто не ведае, у каго знаходзяцца ключы. Можа бурмістр трымае іх у сябе і любуецца ліфтам вонкі будынка.

Пабудавалі ліфт, выдалі грошы, але ніхто ім не можа пакарыстацца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# „Ніва" дапамагла

У „Ніве" № 12 ад 18 сакавіка г.г. у допісе пад загалоўкам „Выбоіны" я крытыкаваў шматлікія небяспечныя ўхабіны ў асфальтавай маставой ваяводскай дарогі № 68 на адрэзку з Новага Ляўкова ў Плянту ды ў гэтых вёсках Нараўчанскай гміны. Пасля зімы тут утварыліся глыбокія, і таму небяспечныя, выбоіны. Найбольш яны дакучлівыя для веласіпедыстаў і легкавушак. У заканчэнні заметкі я напісаў такі лаканічны сказ: „Даражэнькая служба, „залатай" выбоіны!".

Пасля нашай крытыкі мінула крыху больш чым месяц і 24 красавіка г.г. дарожная служба Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог у Беластоку адрамантавала маставую, а ўжо найлепш на чыгуначным пераездзе ў Плянце. Наша крытыка дапамагла.

**(яц)**

# Адгаданка

1. устаноўка, у якой адбываецца ядзерная рэакцыя, 2. здольнасць да ўспрымання арамату, 3. імя прэзідэнта ЗША, 4. Казбек або Везувій, 5. з ім душа, 6. прозвішча прэзідэнта ЗША, 7. стаўбцоўская рака, 8. victory (англ.), der Sieg (ням.), zwycięstwo (поль.), 9. сорт позніх груш з буйнымі жоўтымі пладамі, 10. член экіпажа марскога карабля, 11. фізічная адзінка сілы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Аўчына, веды, гета, лес, поезд, сон, хоры, чын.

Рашэнне: **Хто не спазнаў горычы, не ведае слодычы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.



**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 13.05 — 19.05

**(22.03. — 20.04.)** 12-15.05. плануй далёкае падарожжа, экскурсію. 14-18.05. можаш разлічваць на поспех на працы, спрыянне кіраўніцтва. Ды з 15.05. да 19.05. будзеш вельмі злосны і прыдзірлівы. Аж да 24.05. маеш шанцы на добрыя заробкі.

**(21.04. — 21.05.)** Аж да 24.05. людзі вельмі прыхільныя табе; дзякуючы кантактам, шчасцю і дапамозе ўплывовых асоб гарантуеш сабе поспех. З паловы месяца — зоркі не спрыяюць гармоніі ў пачуццях. У пятніцу будзеш мець выбар, ад якога будзе залежаць тваё жыццё.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш асабліва пільны, ніякая тайна ад цябе не ўцячэ. Здабудзеш каштоўную інфармацыю. Не бяры нічога ў крэдыт. Праявіш дыпламатычнасць каб здзейсніць стары план. У пятніцу нечаканыя падзеі могуць давесці да канфлікту.

**(23.06. — 23.07.)** Твой розум будзе як брытва. Здабывай інфармацыі, паглыбляй веды, здавай экзамены. Добры час для рэалізацыі практычных задум, поспех у розных службовых мерапрыемствах. Пятніца — добры час для зачацця дзіцяці.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш самаўпэўнены, узыдзеш на кар'ерны пік і ўдачы. Падумай каб заняцца трэніроўкай. Добры час для рэалізацыі сваёй даўняй мары.

**(24.08. — 23.09.)** Не шкадуй часу на рамантычныя хвіліны ў пары. У гэтым тыдні трэба будзе вырашыць пару канфліктаў. Магчымыя некаторыя змены звязаныя з тваім фінансавым і сацыяльным становішчам. У суботу можаш парваць сабе нагавіцы ці сукенку.

**(24.09. — 23.10.)** 15.05. справы могуць абярнуцца не па-твойму; мо трэба будзе раптам змяніць планы. У гэты тыдзень будзеш кіраваць іншымі; тваім думкам будуць прыслухоўвацца і не адмовяць тваім просьбам.

**(24.10. — 22.11.)** Незабыўны тыдзень. Удасца ўсіх пераканаць да тваёй ідэі і пацягнуць людзей за сабою. 16.05. будзеш вельмі кемлівы, заззяеш досціпам, цікавымі задумамі, наладзіш цікавае знаёмства. Можаш знайсці добрага купца на дом.

**(23.11. — 22.12.)** Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на важнае табе пытанне, лёгка будзеш маніпуляваць іншымі, а здаровы і кемлівы розум пазволіць знайсці трапныя вырашэнні. Да 15.05. — рызыкуй! Хоць планы працы будуць у калізіі з хатнімі і асабістымі.

**(23.12. — 20.01.)** 14-18.05. Знакаміта ў інтарэсах. Будзеш непахісным у негацыяцыях і ўпэўнены ў сваёй рацы. Не перабольшвай сваіх праблем. Пільнуй ныркі, пазваночнік і шчытавідку.

**(21.01. — 19.02.)** Твая нерашучасць у якой-небудзь справе можа затармазіць твой поспех. Не перабольшвай сваіх праблем. З часам усё выправіцца само сабою, ты нічога не страціш. Можаш супакоіцца, змяніўшы... устаноўку мэблі ў хаце.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Прыйшоў час рэалізаваць свае старыя планы. Цяпер вырашаюцца пытанні тваёй кар'еры; не ўпусці часу і будзь ініцыятыўным, бо можаш застацца ля разбітага карыта! Любое прафесійнае супрацоўніцтва — вельмі выгаднае. Новыя сустрэчы і раманы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Тэкст і фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

# Пілігрымка ў сучаснае і гісторыю Святой Зямлі (5)

Завяршаючы аповед пра пілігрымку ў Ізраіль, хочацца расказаць яшчэ пра некаторыя святыні краіны і пра мясцовасці, якія ўвайшлі ў біблейскую гісторыю, у якіх засталіся культавыя знакі, гістарычныя адзнакі, малітоўныя асяродкі і ўнікальныя забудовы.

## Цень Гефсіманскага саду

Гефсіманія — гэта мясцовасць у Кедронскай даліне ля схілу Елеонскай гары, непадалёк старой часткі Іерусаліма. У перакладзе Гефсіманія азначае „маслінавы прэс”, паводле біблейскай гісторыі менавіта тут Ісус маліўся ў садзе ў ноч перад арыштам. У евангельскія часы Гефсіманскім садам называлася амаль уся мясцовая даліна. Сёння гэта зусім невялікая тэрыторыя квадратнай планіроўкі, нават меншая за палову сярэдняга па велічыні футбольнага поля. У гістарычным садзе расце 8 старых аліўкавых дрэваў — па розных ацэнах іх „узрост” вагаецца ад паўтары тысячы гадоў да больш чым двух тысяч. А гэта азначае, што некаторыя з гэтых дрэваў былі сведкамі малення Сына Божага аб чашы. У даўнія часы побач з гэтым месцам была збудаваная візантыйская царква, якую пазней разбурылі. З XVII стагоддзя Гефсіманскі сад трапіў у валоданне францішканаў, якія пазней яго абгарадзілі. Пры наведванні падалося, што на тэрыторыю самога саду нікога не пускаюць, але пазней сярод дрэваў разбрылася нейкая група японцаў. Па ўсім відаць, уваход у сад платны. Старыя і тоўстыя, нібы казачныя, аліўкавыя дрэвы, даюць цень і ствараюць асаблівае ўражанне. Аліўкавае дрэва — адзін з асноўных сімвалаў гэтай зямлі. Цікава, што яно не мае ўласна карэння, расце непасрэдна з зямлі. Першыя плады дае толькі пасля 30-40 гадоў росту — чалавек у такім веку пачынае ўжо старэць. Тое, што гэтыя дрэвы могуць жыць некалькі тысяч год — сапраўдны цуд нашай зямлі.

Побач з гістарычным садам стаіць царква Усіх нацый — каталіцкі храм, збудаваны ў 1919-1924 гадах. У гэтым касцёле, на фасадзе якога шыкоўная мазаіка, а на каньку даху змешчаны вывы двух аленяў, падобных на гарадзенскі герб — аленя святога Губерта, паводле задумы архітэктара заўсёды паўзмрок — як нагадванне пра падзеі той ночы, што адбыліся вельмі даўно. Перад алтаром змешчаны камень, на якім паводле падання і маліўся Ісус. А на даху храма — гербы дванаццаці дзяржаў, якія зрабілі ўнёсак у яго будаўніцтва.

Непадалёк ад Гефсіманскага саду, праз дарогу, яшчэ адна сапраўдная святыня — праваслаўная царква Успення, дзе была пахавана Багародзіца. Яшчэ ў 326 годзе св. Алена збудавала тут першы храм. У XII стагоддзі паўстала новая царква. Тут знаходзяцца і грабніцы бацькоў Марыі — Яўхіма і Ганны, а таксама Іосіфа Абручніка. У падзямельную па сутнасці царкву, якую дзеляць паміж сабой Іерусалімская праваслаўная і Армянская апостальская цэрквы, вядуць доўгія сходы. У месца, дзе апосталы пахавалі Багародзіцу ў самай ніжняй частцы храма, досыць людна. Каб прыкласціся да адпаведнай іконы, трэба адстаяць чаргу.


Галілейскае мора

## Жаданні ў Сцяну Плачу

У розных завулках спатыкаем таксама будынкі сінагогі і ешыботу, на адной са сцен — масонскія знакі. Увесь Іерусалім проста насычаны самай разнастайнай сімволікай розных канфесій і арганізацый.

Вышэй Гефсіманскага саду, можна сказаць на гары, стаіць царква і жаночы манастыр св. Марыі Магдалены. Гэ-


Дрэва Гефсіманскага саду

ты асяродак быў створаны паводле фундацыі расійскага імператара Аляксандра III. Комплекс праз увесь час належаў Рускай замежнай праваслаўнай царкве. Асноўны храм выкананы ў маскоўскім стылі са шматлікімі, рознай велічыні купаламі. У храме іконы пэндзля знакамітага мастака Васіля Верашчагіна. На тэрыторыі шмат зеляніны і катоў, для якіх тут усе выгоды. Распешчаныя дагледжаныя каты ахвотна даюць сябе лашчыць і ідуць на рукі. З тэраснай пляцоўкі добра відаць панараму старой часткі Іерусаліма. Вакол яе на тэрасах могілкі розных канфесій. Можна было ўбачыць працэсію на вялізных габрэйскіх могілках — якраз некага хавалі. Дзесьці там, дарэчы, магіла знакамітага Оскара Шындлера, які ўратаваў столькі прадстаўнікоў „абранага народу” ў Другую сусветную вайну. Яшчэ адзін асяродак рускага праваслаўя — жаночы Спаса-Узнясенскі манастыр на Елеонскай гары, які таксама належыць замежнай царкве. Гэта знакавае месца — паводле падання менавіта тут была знойдзена галава Яна Хрышчэнніка. У адпаведным храме ў падлозе зроблена выемка, куды ўкленчыўшы, выцягваешся на ўвесь рост і апускаеш сваю галаву. Ля гэтай царквы мы сталі сведкамі як настаяцельніца манастыра выгаворвала нейкай жанчыне з турыстычнай групы за тое, што тая прыйшла сюды не ў спадніцы. Потым гэтая ігумення значна памякчэла і нават тоесёе расказала для нашай групы.

Наведалі мы і знакамітую „Сцяну Плачу”, куды імкнуцца турысты з ўсяго свету, незалежна ад веравызнання. Фактычна гэта Заходняя сцяна Храмавай гары. Для габрэяў — ледзь не галоўная святыня ўсяго іудаізму. Рэлігійныя габрэі Іерусаліма, у якім бы месцы яны не знаходзіліся, заўсёды моляцца павярнуўшыся ў бок Сцяны Плачу. Складзена сцяна з вялікіх часаных камянёў, якія не змацаваныя паміж сабой рошчынай. Перад уваходам на дастаткова вялікі пляц, які прымыкае да культавай сцяны, усіх правярае паліцэйскі кантроль, які дастаткова лаяльны. Падысці да аб'екта можна чалавеку кожнай канфесіі, але трэба абавязкова ўскласці на галаву кіпу — традыцыйную іудзейскую шапачку, іх раздаюць усім. Тая частка сцяны, куды падыходзяць людзі памаліцца і ўсунуць у шчыліны запіску, мае працягласць каля ста метраў, падзелена яна на мужчынскую і жаночую часткі ў прапорцыі прыблізна тры да аднаго. Пакінулі свае напісаныя жаданні ў шчылінах паміж камянямі, дзе напхана процьма цыдулак на дзесятках моваў свету, і мы.

## Назарэт, Капернаум і Галілейскае мора

Наша далейшае падарожжа пралягала на поўнач Ізраіля ў гістарычную Галілею. Па дарозе мы праехалі непадалёк гары Фавор і праз Кану Галілейскую, дзе, як вядома, Хрыстос здзейсніў адзін з першых сваіх цудаў — пераўтварыў на вяселлі ваду ў віно.

Назарэт — назва знаёмая нам з першага чытання Бібліі, а для некаторых з юнацтва, з часу адкрыцця для сябе аднайменнага рок-гурту. Горад, дзе адбылося Дабравешчанне і дзе прайшло дзяцінства Ісуса Хрыста. Сёння ў Назарэце і Кане Галілейскай пражывае восемдзесят адсоткаў арабаў-мусульманаў. Парадаксальна, але гэта і самы хрысціянскі горад у Ізраілі, паколькі рэшта арабаў спавядае менавіта хрысціянства. Знешне іх цяжка адрозніць ад габрэяў, а моладзь увогуле апранаецца як еўрапейская. Звычкі таксама адпаведныя — каля адной з навучальных установаў Назарэта можна было пабачыць дзяўчынак-падлеткаў у джынсах і з цыгарэтамі — ну зусім як каля нашых школаў.

Галоўнае памятнае места сучаснага Назарэта — грот Дабравешчання, над якім збудаваны вялізны каталіцкі храм, якому адным з папаў нададзены статус малой базілікі. Да гэтага цягам розных стагоддзяў на месцы, дзе некалі жылі Іосіф з Марыяй, сталі розныя іншыя храмы, не ацалеўшыя праз віхуры войнаў і разбурэнняў. Сённяшні велічнай і геніяльнай паводле архітэктурнага рашэння бажніцай апякуюцца францішкане. Усярэдзіне можна пабачыць таблiцы на розных мовах. Нашай, на жаль, яшчэ няма. А ў глыбіні дворыка відаць выяву Маці Божай Вострабрамскай і ўласна Медніцкую браму з подпісам па-літоўску. Першая ж беларускамоўная шыльда на Святой Зямлі з'явілася летась у асяродку „Pater Noster” („Ойча Наш”). Там пабываць не давялося, але побач мы праязджалі.

У Капернауме нас заспеў густы дождж уперамешку з градам. Такая прыродная з'ява тут досыць рэдкая — град выпадае не часцей чым раз у два гады. Наведванне чарговага манастыра на беразе Галілейскага мора, якое цяпер у Ізраілі называецца возерам Кінерэт, пакінула яркія ўражанні. Паблізу размешчаны кавярні, дзе турыстам на абед прапануецца так званая „рыба св. Пятра”. Гатуецца і падаецца яна разам з бульбай. Гэтая рыба называецца „мушт”, водзіцца яна толькі тут. Манастыр на ўзбярэжжы Тывярыядскага возера (яшчэ адна назва Галілейскага мора) — гэта сапраўдны прыродны райскі куточак. Паўліны на дрэвах з пладамі авакада, перапляценні зялёнага кустоўя, многа сонца, экзатычныя дрэвы і кактусы. Тут, на тэрыторыі евангельскага Капернаума размешчаны грэчаскі праваслаўны сабор Дванаццаці Апосталаў. Цікавая расфарбоўка гэтага храма, дзе купалы памаляваны ў чырвоны колер, тут вельмі простыя, але прыгожыя вітражы і абсалютная гармонія. Агульная атмасфера тут нейкая па-асаблівому радасная і нават урачыстая. Сад і гаспадарку нібыта ўтрымлівае толькі адзін манах. А вока зачароўвае люстра Галілейскага мора, па якім хадзіў Хрыстос. Гэта, дарэчы, самае нізкае прэснаводнае возера на нашай планеце. Апошнія тры дні мы, выязджаючы на экскурсіі, начавалі ў горадзе Натанія на самым узбярэжжы Міжземнага мора. У гэтыя дні быў моцны вецер і было досыць прахалодна. Сама Натанія — абсалютна сучасны горад, гэткі „ізраільскі Чарнаморск”, дзе ледзь не кожны другі размаўляе па-руску. Адзін з дзён прыпаў якраз на шабат і было цікава назіраць як габрэі ўмеюць радавацца і весяліцца ў суботу, як нічога не працуе ў гэты дзень, іудзейскія вернікі нават на кнопку ліфта не цiснуць і ён працуе аўтаматычна... Але кожнаму паломніцтву прыходзіць свой канец. Даўнія пілігрымы трацілі год, каб толькі дабрацца да Святой Зямлі, зараз туды можна заляцець самалётам за некалькі гадзін. Пара вярнуцца на радзіму. Як кажа адзін наш святар: „Сёння Святая Зямля — там, дзе мы зараз жывем і працуем”. І ўсё ж да новых падарожжаў!

ISSN 0546-1960